


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

13 КРАСАВІКА 2001г. № 15/4099 КОШТ 124 РУБ.



## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на "ЛіМ" на другі квартал 2001 года. Афарміць падпіску можна ў любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — **600** рублёў, на два — **1 200**. Кошт ведамаснай падпіскі на месяц — **1 560** рублёў, на два — **3 120**.*

**Наш індэкс — 63856.**



# На Беларусі Бог жыве...



*Фота А. МАЦЮША*

# Валянцін БЛАКІТ: "Радуемся кожнаму таленту"

***Адкрываючы рубрыку, дзе мы прапануем нашым чытачам выказаць свае думкі перад 13-м пісьменніцкім з'ездам, мы папрасілі старшыню прыёмнай камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянціна БЛАКІТА адказаць на некаторыя пытанні, выказаць свае думкі наконт надзённых праблем нашай творчай суполкі.***



**Кар.:** Прыёмная камісія па сутнасці фарміруе будучыню нашай літаратуры. Хацелася б, Валянцін Уладзіміравіч, пачуць вашу думку: якія ж набыткі і якія выдаткі?

**В. Б.:** Будучыня літаратуры, канечне ж, фарміруецца не прыёмнай камісіяй, а людзьмі, што прыходзяць у літаратуру. Прыёмная камісія ўсяго толькі творчая экспертыза. На апошнім этапе — пасля рэкамендацый трох пісьменнікаў, разгляду прэтэндэнта на пасяджэннях абласных аддзяленняў, творчых камісій яна дае свае рэкамендацыі радзе, якая ўжо канчаткова пераводзіць альбо не пераводзіць дэ-факта ў дэ-юрэ. Практычна ўсе рэкамендаваныя камісіяй аўтары сталі сябрамі СП. 39 са 100 прэтэндэнтаў, чыю творчасць разглядалі на прыёмнай камісіі.

**Кар.:** Няпоўных сорак працэнтаў?! Такога, здаецца, у нас даўно не было.

**В. Б.:** Але ж некалі было. Нашы старэйшыя таварышы памятаюць, з якой патрабавальнасцю ў свой час ставіліся да членства ў саюз. Потым неяк пайшло-паехала, калі ў моду ўвайшлі колькасныя паказчыкі літаратурнага роду. Ужо на адным з першых пасяджэнняў наноўабранай рады было прынята шэраг захадаў па ўдасканаленні работы прыёмнай камісіі. У прыватнасці, зацверджана новае палажэнне, адбылася грунтоўная, зацікаўленая гаворка, сфарміравана новая прыёмная камісія, уведзена ў правіла публікаваць у "ЛіМе" прозвішчы рэкамендантаў. Усё гэта спрыяла павышэнню патрабавальнасці да прэтэндэнтаў у членства саюза.

**Кар.:** А чарга на прыём вялікая?

**В. Б.** Мы яе не ствараем. Паступаюць прапановы з творчых секцый — і на працягу месяца-двух разглядаем, выносім прапановы на раду. Да з'езда пастараемся правесці яшчэ адно пасяджэнне, каб не пакідаць "хвастоў". А ўвогуле зараз на фармальных падставах могуць афармляць дакументы для паступлення ў члены нашай творчай суполкі, пэўна, чалавек дзвесце, а мо і болей.

**Кар.:** Скажыце, што гэта за фармальныя падставы?

**В. Б.:** Перш за ўсё — выдадзеная кніга. А выдаць кнігу сёння няма ніякіх праблем. Абы грошы.

Графаманы, як вядома, народ дзелавы, нахрапісты — пакуль таленавіты аўтар даўмеецца сунуцца да багатага фундатара — там усё выпатрана графаманамі.

І хацелася б сказаць удзячнае слова рэдакцыі "Маладосці", якая стала добрай бабкай-павітухай для кніжак маладых таленавітых аўтараў. Больш за трэць прынятых у сябры саюза выдалі свае кніжкі ў "Бібліятэцы "Маладосці".

Не ўсё, канечне, што выдаецца за грошы, у прыватных выданнях варта чохам адносіць да графаманіі. Ёсць і разумныя, адукаваныя фундатары, з дапамогай якіх выходзяць кніжкі таленавітых аўтараў. Таму пры разглядзе прыёмная камісія абсалютна не зважае, дзе і кім выдадзена кніга. Крытэрый адзін: сапраўдная літаратура ці графаманія.

**Кар.:** Але згадзіцеся, Валянцін Уладзіміравіч, што для асобных аўтараў, асабліва ў шаноўным узросце, няпрыняцце ў саюз — асабістая трагедыя.

**В. Б.:** Мо асабістая трагедыя для сяго-таго якраз у тым, што ў паважаных рэкамендантаў не хапіла мужнасці шчыра і адкрыта сказаць: не твая гэта справа, міл чалавек. Асабістыя трагедыі і пачынаюцца часта якраз з атрыманнем членскага білета, які па глыбокім перакананні ягонага ўладальніка дае права, адкрывае зялёнае святло на старонкі тоўстых часопісаў. А друкавацца на вядомых прычынах не хочуць, і пачынаюцца паходы па інстанцыях: як гэта так, у мяне ж такі самы білет, як і ў Быкава, Шамякіна, Барадуліна, Гілевіча! Усчынаюцца вышукі ніядобразычліўцаў, ворагаў, звадкі, палітычныя абвінавачванні. Жыццё чалавека ператвараецца ў суцэльнае пекла. А парачка такіх барацьбітоў за свае творчыя правы, здольны пераўтварыць у пекла работу любой рэдакцыі. Мусіць, усё ж куды больш гуманна сказаць чалавеку праўду ў вочы, чым цягнуць за вушы ў саюз.

**Кар.:** Якімі ж крытэрыямі карыстаецца прыёмная камісія пры галасаванні "за" ці "супраць" канкрэтнага прэтэндэнта?

**В. Б.:** Цяперашняя прыёмная камісія сфарміравана з людзей, густы, веданне справы, творчы вопыт якіх ні ў кога не выклікаюць сумненняў. Мы дыскутуем, спрачаемся, улічваем кожную думку. І тайным дэмакратычным галасаваннем прымаем рашэнне. Лічу, што найбольшай вартасцю сённяшняй прыёмнай камісіі з'яўляецца адсутнасць аднадумства. Толькі пяць прэтэндэнтаў, таленавітасць і творчы патэнцыял якіх не выклікаў ні ў кога ніякіх сумненняў, прайшлі аднагалосна. А дружна і аднагалосна не адмовілі ніводнаму. Ніхто не ставіць за мэту некага, як кажуць, "зарэзаць". Мы радуемся кожнаму таленту, кожнаму таленавітаму радку, па-чалавечы засмучаемся, калі даводзіцца

(Працяг на стар. 15)



## Юбілей на Замкавай

У літаратурна-мастацкім салоне "Сустрэчы на Замкавай", што пяць гадоў існуе пры цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна, святкавалі юбілей сябра Саюза мастакоў Святланы Курашовай.

Мастачка актыўна займаецца дабрачыннай дзейнасцю. Яе акварэлі ўпрыгожваюць культурныя і лячэбныя ўстановы вобласці. Яна працуе ў складзе творчага аб'яднання экалагічнага накірунку "МЭЯ" (Мастацтва, экалогія і я), якое сумесна з мастакамі Германіі праводзіць па праграме ЮНЕСКА акцыю "Мастацтва ў бальніцы". У сельскіх лячэбных установах вобласці сябры аб'яднання арганізоўваюць сумесныя перасовачныя выставы, ахвяруюць свае творы, спрыяюць стварэнню карцінных галерэй у сельскіх бальніцах. Ёсць такая галерэя і ў Дзятлавіцкай участковай бальніцы Гомельскага раёна, якой кіруе галоўны ўрач Аляксандр Ефімовіч. Некалькі сваіх лепшых работ Курашова падаравала гэтай лячэбнай установе. А напрыканцы красавіка тут адбудзецца афіцыйнае адкрыццё першага ў рэспубліцы хоспіса для дарослых.

**Наталля МАЛАШЭНКА**

## Мастак малюе вёску

Споўнілася 65 гадоў вядомаму беларускаму жывапісцу Роберту Ландарскаму. Творы яго экспанаваліся ў Германіі, Польшчы, у мінскім Палацы мастацтваў, на Днях беларускай культуры ў Маскве. Роберт Яфімавіч нарадзіўся ў Гомелі, але ўсё сваё творчае жыццё звязаў з вёскай. Сярод асноўных яго прац карціна "Вёска Радуга. Дзень Перамогі", серыя карцін пра Бесядзь, вялікі цыкл пейзажаў пра Тураўшчыну, Прыдняпроўе, серыю палотнаў мастак прысвяціў чарнобыльскай тэматыцы. Зараз у Гомелі працуе персанальная выстава ягоных работ.

## Вясёлка талентаў

У абласным цэнтры прайшоў другі гарадскі фестываль "Вясёлка талентаў". У ім прынялі ўдзел тры з паловай тысячы юных музыкантаў — з 8 школ мастацтваў і з 10 агульнаадукацыйных школ з эстэтычным ухілам. Творчае спаборніцтва ішло ў самых розных жанрах: вакальнахаравым інструментальным, харэаграфічным... Арганізавалі фестываль гарадскі аддзел культуры, упраўленне адукацыі гарвыканкама пры падтрымцы Беларускага Саюза музычных дзеячаў.

## Кадры рыхтуе Мазыр

Нядаўнія выпускнікі мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута склалі аснову кафедры выяўленчага мастацтва Мазырскага педінстытута. На Палессі заўжды адчуваўся дэфіцыт педагагічных кадраў для школ. Менавіта мазырская кафедра, якой споўнілася ўжо пяць гадоў, рыхтуе жывапісцаў, графікаў, дызайнераў, педагогаў. З нагоды хоць і невялічкага, але юбілею ў гарадской выставачнай зале арганізавана сумесная выстава работ выкладчыкаў кафедры і студэнтаў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**



## Прызы — тэатралам

Напрыканцы сакавіка Магілёўскі абласны драматычны тэатр упершыню прымаў удзел у традыцыйным рэспубліканскім тэатральным фестывалі "Маладзечанская сакавіца". Магіляўчане прадставілі свой леташні спектакль "Трыстан і Ізольда" ў пастаноўцы Алега Жугжды. Спектакль быў па вартасці ацэнены журы. Ён атрымаў прыз за лепшую рэжысуру. А акцёры Магілёўскага драмтэатра Галіна Лабанок і Уладзімір Саўчыкаў адзначаны прызамі за выкананне лепшай жаночай і мужчынскай ролі.

## Горацкі Парнас

У Горках выйшла чарговая кніга кандыдата філасофскіх навук, вядомага літаратуразнаўцы Уладзіміра Ліўшыца "Раскопкі вакол горацкага Парнаса". Горкі вядомы як месца, якое больш паўтара стагоддзя прыцягвала ўвагу паэтаў і празаікаў. Аб Горках і мясцовай сельгасакадэміі, яе выхаванцах пісалі Дзяржавін і Чэхаў. Сюды слалі свае лісты Шаўчэнка і Тургенеў. У Горкі прыязджалі Купала, Колас, Караткевіч... Аб усім гэтым можна даведацца з кнігі Уладзіміра Ліўшыца.

## Гульня ва ўяўленні

У Бабруйску адкрылася персанальная выстава мясцовай мастачкі Ірыны Куставай пад назвай "Гульня ўяўленняў". Гэта яе першая персанальная выстава. Ірына — выхаванка мясцовай мастацкай школы, зараз — сябра маладзёвай секцыі пры Саюзе мастакоў. Работы мастачкі выкананы ў асноўным у тэхніцы баціку.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**



## Заснавальнік бібліятэкі

У 1905 годзе прагрэсіўны кнігавыдавец Фларэнцій Паўленкаў адкрыў у вёсцы Астрамечава, што на Брэстчыне, публічную бібліятэку. Прозвішча асветніка не забытае. Удзячныя нашчадкі адну з новых вуліц мястэчка назвалі ў гонар Паўленкава. А работнікі бібліятэкі, ушаноўваючы памяць яе заснавальніка, з годнасцю працягваюць справу прагрэсіўнага аматара кнігі.

**Анатоль ХАРЛАМАЎ**

## Падарунак лялечнікаў

Чарговай прэм'ерай парадаваў юнага берасцейскага гледача абласны тэатр лялек. На гэты раз — спектаклем па п'есе Б. Рабадана "Маленькая фея". Да займальнага сюжэта сваёй фантазіі дадалі рэжысёр-пастаноўшчык З. Нуянзін, мастак-сцэнограф М. Данько, кампазітар Н. Туміловіч. Ды плюс высокае майстэрства артыстаў. У выніку спектакль прывабліваe дынамізмам, маляўнічасцю.

Сярод новых задумак тэатра — спектаклі "Залатая табакерка" паводле п'есы І. Сідарука і "Гусі-лебедзі" паводле казак Андэрсена.

**І. Х.**



# Апошні Бабчына жыхар...

***26 красавіка 86-га... Чорная дата чорнай бяды. Бяды бясконцай, сапраўды нацыянальнай. Пятнаццаць гадоў мы жывём з Чарнобылем у сэрцы. Боль гэты — спадчынны. Хопіць яго і дзецям нашым, і ўнукам.***

***А над выселенымі вёскамі ўсё кружляюць буслы. Адна з іх — вёска Бабчын, што на Хойнікшчыне, адкуль родам паэт Мікола МЯТЛІЦКІ...***



**— Мікола Міхайлавіч, калі ў апошні раз наведвалі родную вёску?**

— У 99-м, калі Міністэрства замежных спраў разам з камчарнобылем вырашылі паказаць зону прадстаўнікам дыпламатычных місій. Убачылі Бабчын — і жахнуліся. І справа не ў тым, што тут за 40 кюры на квадратны кіламетр. Калісьці ледзь не на чатырохстах падвор'ях ваўсю вiравала жыццё. Працавалі, кахалі, спявалі песні, радаваліся кожнаму дню. Зараз пуста тут ды ціха, як на могілках. Не, хаты захаваліся. Калі здалёк падступаешся, здаецца, быццам і жывая вёска. А падыдзеш бліжэй — дэкарацыі для фільма жахаў — у быльнягах, вёска-здань!

**— А на нашай Веткаўшчыне нават хаты ў эвакуіраваных вёсках не захаваліся — альбо спалілі, альбо на дровы расцягнулі... Кажуць, Бабчын — паселішча знакамітае?**

— Так. У 1856 годзе нарадзіўся тут вядомы этнограф Чэслаў Пяткевіч. У 1905-м была ўжо школа, а да вайны — настаўніцкі тэхнікум пачаў дзейнічаць. Літаратар Яўген Калубовіч, які ў 30-х супраць калгасаў выступаў, таксама вучыўся тут. А ў нашы ўжо дні мясцовым калгасам стрыечны брат Мележа працаваў — Анікандр Дзмітрыевіч. Так што лёс мой паэтавы ў такім асяродку проста прадвызначаны быў...

**— Як адсяляўся Бабчын?**

— 20 красавіка 86-га пабываў у вёсцы. І не хацеў ехаць (клопатаў у Мінску шмат было), але як пацягнула нешта. Адведаў сястру з малымі дзецьмі, цётак стрыечных (мама з бацькам яшчэ на пачатку 80-х памерлі), назад вярнуўся. Якраз чарговы пісьменніцкі з'езд распачаўся. А пасля 26-га рэдактар Хойніцкай газеты Сакун мне тэлефануе: "Аварыя ў Чарнобылі!". Спачатку сур'ёзна ўсё не ўспрымалася. Потым ужо ўсведамляць пачалі, што такое радыяцыя... Ад Прыпяці да Бабчына крыху больш за 40 кіламетраў, ды праз лес. Здавалася, такі ўжо свет далёкі! Так што тыя паселішчы, якія ледзьве не побач з рэактарам месціліся, на першым часе ў наш раён адсялялі. Людзі з Пагоннага, напрыклад, у Бабчыне жылі. А ў траўні пачалі сем'і з дзецьмі эвакуіраваць. Сястру ў Мінск забраў. А рашэнне аб адсяленні Бабчына ў жніўні прынялі. Якраз на той час разам з Сачанкам і Шамякіным у Гомелі былі. Тамтэйшы абкамаўскі сакратар Бабыр пра гэта і паведаміў. Так што менавіта мне прыйшлося везці гэтую сумную вестку да землякоў. А людзі ўжо на жвіры сядзелі. Салдаты дэзактывацыю праводзілі, забруджаны грунт здымалі, платы зносілі, асфальт праклалі. Ніхто й верыць не хацеў, што адсяляцца трэба. Верасень на носе, бульбу капаць распачалі — якая радыяцыя, калі ні паху ў ёй, ні колеру! Думаў, вёску цалкам перасяляць, новы Бабчын дзесьці з'явіцца. Аднак не. Відаць, устаноўка такая была — з перасяленцаў "вінегрэт" рабіць, каб не думалася ім зноў гуртам назад вяртацца... Так і рассялілі Бабчын па чатырох вёсках Рэчыцкага раёна. Адным летам той-сёй паспрабаваў у Бабчын вярнуцца. Міліцыя назад выгнала.

(Працяг на стар. 5)



**ЧАСАПІС**

## На сустрэчы з паэзіяй

**У бібліятэцы імя Ф. Багушэвіча адбылася сустрэча з вядомым беларускім паэтам Генадзем Бураўкіным. Яна была арганізавана загадчыцай Валянцінай Коршыкавай і метадыстам па рабоце з чытачамі Наталляй Стрыгельскай. У бібліятэку былі запрошаны навучэнцы філалагічнага аддзялення МДПК № 1. Адбылася прэзентацыя дзвюх апошніх кніг Генадзя Бураўкіна "Паміж зоркай і свечкай..." (выдавецтва "Бацькаўшчына", 2000 г.) і "Чытаю тайнапіс вачэй..." (выдавецтва "Юнацтва", 2001 г.).**

**На сустрэчы з навучэнцамі быў таксама дырэктар выдавецтва "Бацькаўшчына" Яўген Лецка. Дзякуючы яго руплівасці, у канцы 2000 года і пабачыла свет кніга "Паміж зоркай і свечкай".**

**Асабліва арыгінальным атрымаўся зборнік "Чытаю тайнапіс вачэй...". Гэты зборнік можна назваць з'явай у нашай паэзіі, бо тут сабраны вершы пра каханне — самае высокае пачуццё на Зямлі. Сюды ўвайшлі лепшыя вершы паэта, прысвечаныя жанчыне, іх у кнізе сто дзесяць. Некаторыя з іх даўнія, вядомы па анталогіях, зборніках — "Жанчын прыгожых трэба берагчы", "Непрыгожых жанчын не бывае", "Табе, нібы прароку, веру", а таксама шмат новых, напісаных у апошнія гады. Многія з вершаў зборніка пакладзены на музыку беларускімі кампазітарамі і сталі папулярнымі песнямі ("Патухаюць, цямнеюць высі", "Мне не забудзецца ніколі..." і інш.)**

**Паэт чытаў свае вершы, расказваў аб сваім жыцці і адказваў на пытанні навучэнцаў — будучых настаўнікаў роднай мовы і літаратуры. Студэнты былі вельмі ўражаны цікавай і шматграннай асобай Генадзя Бураўкіна. На развітанне навучэнцы сустрэчы сфатаграфаваліся з гасцямі, а пасля паэт падпісаў свае кнігі.**

**Юлія КАВАЛЁВА,**
**навучэнка МДПК № 1**

## Ліст з Нью-Йорка

**На адрас пісьменніка Леаніда Левановіча прыйшоў ліст з Нью-Йоркскай публічнай бібліятэкі. У ім шэф навукова-даследчага аддзела Натали Севярын на ўсіх правілах бібліятэчнай класіфікацыі піша:**

**"Дарагі містэр Левановіч! У нас ёсць Вашы кнігі з аўтографам:**

**Левановіч, Леанід. Якорь надежды. Москва: Советский писатель, 1991.**
**Шчыглы. Мінск: Мастацкая літаратура. 1986. Ларыса, альбо Прыгоды аўтамабіліста. 1998**

**Дзякуем Вам за глыбокую цікавасць да нашай калекцыі".**

**Кнігі "Шчыглы" і "Ларысу..." бібліятэка набыла раней, а "Якорь надежды" аўтар прэзентаваў асабіста. "Москау? Рашэн? Ноу...", маўляў, перакладаў бываюць кепскія. А калі дазналіся, што аповесць "Якорь надежды" і некаторыя апавяданні аўтар пераклаў сам, узялі ахвотна і цяпер яе паставілі на першае месца. Ці не з павагі да старэйшага брата?**

**І яшчэ. Л. Левановіч быў у Нью-Йорку напрыканцы лістапада 2000 г., ліст падпісаны 5 сакавіка 2001. Думаецца, што гэта не прыкмета славутай амерыканскай бюракратыі, а факт, які сведчыць пра сур'ёзнае стаўленне да справы: перачыталі, вывучылі, а тады падзякавалі. Галоўнае, падзяка знайшла адрасата. Што ж, чуцен голас наш далёка!**

## Міжнародны "Mini print"

**У Гродне ў галерэі "У Майстра" з 10 па 30 сакавіка прайшла трэцяя выстава графікі малых формаў "Mini print". Папярэднія дзве выставы адбыліся ў межах конкурсу, арганізаванага Гродзенскім аддзяленнем СМ пры падтрымцы Беларускай акадэміі мастацтваў. Конкурс, найперш, меў на мэце падтрымаць беларускіх графікаў. Але арганізатары, першым з якіх варта назваць мастака Юрыя Якавенку, спадзяюцца на дапамогу гарадскіх уладаў, каб мець магчымасць запрашаць да ўдзелу мастакоў з іншых краін. І сур'ёзна мяркуюць, што ён стане не менш вядомым і прэстыжным, чым шматлікія біенале жывапісу і графікі ў невялікіх еўрапейскіх гарадках.**

**А сёлетнюю выставу склалі работы з прыватнай калекцыі гродзенскага графіка Юрыя Якавенкі. Яны выкананы ў розных графічных тэхніках, многія адзначаліся ўзнагародамі на міжнародных конкурсах.**

**Пры тым, што ў спісе аўтараў было дваццаць пяць імёнаў, выстава выглядала камернай. Гэтаму спрыяў і сам жанр малой графікі, і невялікія памеры галерэі.**

**У экспазіцыю ўвайшлі работы выдатнага славацкага графіка Альбіна Бруноўскага і вучняў ягонай школы, творы ўкраінскіх, расійскіх графікаў, мастакоў з Германії, Літвы, Ізраіля, Бельгії, Балгарыі, Нідэрландаў. Дарэчы, экспанаваўся адбітак з аўтарскага клішэ славутага Рэмбрандта ван Рэйна — адзін з тых, што былі зроблены некалі да канферэнцыі ў Амстэрдаме, прысвечанай юбілею знакамітага нідэрландскага мастака, і быў падараваны Юрыю Якавенку адным з яе арганізатараў. Беларуская школа была прадстаўлена графічнымі лістамі Уладзіміра Вішнеўскага, Віктара Саўчанкі, Валянціны Шобы і Юрыя Якавенкі.**

**Яўгенія СТАНІНА**

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І З ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Урокі вернасці, мужнасці, самаахвярнасці

Такія ўрокі патрэбныя грамадзянам заўсёды, у любую эпоху, а тым больш — у часы паваротныя, лёсавызначальныя. Асабліва патрэбныя людзям маладым, якія ўступаюць у самастойнае жыццё, дзе іх чакаюць непазбежныя нягоды і выпрабаванні. Зразумела, што абстрактныя разважанні ўрокамі быць не могуць. Моц і сіла маральнай навукі — канкрэтны прыклад: учынак, дзеянне, подзвіг чалавека, асобы, героя. Інакш сказаць — нейчы няпросты, горкі, пакутніцкі або і зусім трагічны жыццёвы лёс.

У гісторыі Беларусі аднаго толькі XX стагоддзя, не кажучы пра папярэднія эпохі, — такіх асобаў, такіх постацяў, такіх пакутнікаў і герояў многія сотні. А можа, і тысячы. Гэта вельмі станоўча характарызуе наш народ, на які паны "дабрадзеі" прывыклі вешаць усякія абразлівыя ярлыкі.

Да ліку несумнеўна выдатных, мужных і самаахвярных сыноў беларускай зямлі належаць мужчыны з вядомага на Смаргоншчыне роду Шутовічаў, — найперш знаны грамадскі дзеяч, выдавец і публіцыст Янка Шутовіч і яго дзядзька, святар-патрыёт, ксёндз Віктар Шутовіч. Зрэшты, цягнуліся да іх узроўню і жанчыны гэтага роду, у прыватнасці — сястра Янкі Марыя. Усім, хто хоча пазнаёміцца з драматычнымі калізіямі жыцця гэтых нязломных беларусаў, горача рэкамендую ўважліва пагартаць першы сёлетні нумар часопіса "Куфэрак Віленшчыны", які толькі што выйшаў з друку. Нагадваю тым, хто забыўся: "Куфэрак" выходзіць у Маладзечне, а яго рэдактар — таленавіты эсэіст, гісторык і краязнаўца (вучань школы Генадзя Каханоўскага) Міхась Казлоўскі.

Імя Я. Шутовіча я шмат разоў чуў ад Максіма Танка, — яшчэ да таго, як аднойчы, недзе ў сярэдзіне 60-х, ён жа пазнаёміў мяне са сваім сябрам асабіста. Гэта сталася ў рэдакцыі "Полымя"; на жаль, госць з Вільні спяшаўся і пагаварыць з ім не выпала. Сёння я асабліва аб гэтым шкадую, — сёння, калі больш чым пра што іншае думаю пра мужнасць і духоўную моц тых, хто прайшоў праз усе кругі пекла — і не зламаўся, не скарыўся, застаўся Чалавекам і годным Сынам свайго народа. Тое, што мне адкрылася з артыкула А. Вабішэвіча ("Захавальнік спадчыны: Янка Шутовіч") і з іншых публікацый нумара, — вымушае ў тысячны раз гнеўна, да скрыгату зубоў, сціснуць скіўцы, а ўслед і кулакі — колькі ёсць сілы, да пасінення пальцаў, і прарычаць параненым тыграм: "Што ж вы, нелюдзі, з намі рабілі? Што вы з намі рабілі на нашай жа гвалтам забранай, заняволенай зямлі?!"

Некалькі цытат з "Куфэрка".

"Сярод студэнтаў універсітэта (Віленскага, — **Н. Г.**) пераважалі асобы польскай нацыянальнасці. Напрыклад, у 1930-31 навучальным годзе палякаў там было 63,2%, яўрэяў — 27,3%, рускіх — 4,3%, беларусаў — усяго 1,6%". І гэта — у Вільні, у сталіцы нашай старажытнай дзяржавы, у калысцы беларускай культуры! Вось яны — адносіны братоў-суседзяў да шматмільённага беларускага народа. Беларусам у адукацыю, у навуку і культуру ходу не дадзім!..

"На месцах польскія ўлады аказвалі шалёнае супраціўдзеянне школьнай кампаніі (адкрыццю беларускіх школ. — **Н. Г.**). На падаўленне гэтага руху быў кінуты ўвесь паліцэйска-адміністратыўны апарат".

"Распрацаваны ў 2-м аддзеле Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы план ліквідацыі ўсіх легальных заходнебеларускіх арганізацый пачаў уводзіцца ў дзеянне. Віленскі староста 2 снежня 1936 г. спыніў існаванне ТБШ (Таварыства Беларускай Школы), праз 2 дні — БІГІК (Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, грамадская арганізацыя. — **Н. Г.**).

"Пасля 1935 г. прадстаўнікоў беларусаў у сейме не было". Як гэта вамі ўспрымаецца, шаноўныя чытачы? Ад 4-х мільёнаў беларусаў — ніводнага дэпутата ў сейме дзяржавы! Вось ужо дзе сапраўды не лічылі нас за людзей, за нацыю, за народ са сваім імем, сваёй гісторыяй і культурай!..

"Напярэдадні верасня 1939 г. пракацілася чарговая хваля рэпрэсій. 30 жніўня разам з іншымі заходнебеларускімі актывістамі быў арыштаваны і Янка Шутовіч. Яго кінулі ў Віленскую турму Лукішкі, а потым перавезлі ў Бяроза-Картузскі канцлагер". З лагера яго вызваліла Чырвоная Армія. Але ці надоўга? "Карныя органы правялі арышты прадстаўнікоў заходнебеларускай інтэлігенцыі Ахвярамі сталінізму сталі Антон Луцкевіч, Аляксандр Уласаў, Вячаслаў Багдановіч, Янка Пазняк, Уладзімір Самойла і многія іншыя"

Да Янкі Шутовіча чарга дайшла толькі ў пачатку 1945-га, — разам са зруйнаваннем Беларускага музея ў Вільні, дырэктарам якога ён быў. "Рашэннем Асобнай нарады пры НКУС СССР яго асудзілі на 10 гадоў зняволення. Да мая 1950 г. пакаранне адбываў ва Унжлагу (Горкаўская вобласць), а потым быў пераведзены ў Песчанлаг (г. Караганда). Пакуты не скончыліся і пасля вызвалення з лагераў. 28 жніўня 1954 г. Шутовіча пакінулі ў ссылцы і накіравалі ў Сталінскае будаўнічае ўпраўленне Караганды маляром".

"Праследуюць мяне, але з дарогі маёй не ўступлю і ў жыцці не зламаюся. Перажыў я бальшавікоў і расейскую рэвалюцыю, перайшоў я амерыканскія школы жыцця, дык перанясу я і гэты здзек і паніжэнне чалавечай годнасці". Гэта ўжо гаворыць другі Шутовіч, ксёндз Віктар, на якога ўчыняла страшнае ганенне каталіцкае духавенства Польшчы — за яго беларускі патрыятызм.

"Падыходзілі да канца праклятыя трыццатыя гады. Палякі забаранялі апошнія беларускія арганізацыі. Беларускія ксяндзы Рэшаць і Германовіч былі вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну. Былі высланы беларускія манахі з Друі. Многія беларускія дзеячы былі арыштаваны і знаходзіліся ў турме".

"Было і такое, што ашалелы польскі фашызм не дазваляў у праграму канцэртаў уводзіць беларускія песні". Гэта — з артыкула Янкі Шутовіча пра Міхася Забэйду. І было гэта ў Баранавічах на пачатку 1939-га. А праз 24 гады... "У 1963 г. Міхасю Забэйду-Суміцкаму ўдалося прыехаць у Мінск, але там адбыўся ўсяго адзін канцэрт. Выразна адчуваліся непрыязныя адносіны да яго з боку ўлад. Прычыну такога стаўлення да таленавітага беларускага артыста Янка Шутовіч бачыў у вялікадзяржаўным шавінізме, які ўкараніўся ў кіраўніцтве БССР".

"Божа, чаму ж нам, беларусам, трэба цярпець столькі за сваё роднае слова, нават у пазнаванні Тваёй Боскай Праўды ды ў малітвах да Цябе?" А гэта ўжо слёзны лямант яшчэ аднаго Беларуса з вялікай літары — лідэра беларускай эміграцыі Вінцэнта Жука-Грышкевіча, пасланы ім да самога Госпада Бога ў 1964 годзе.

Цэлае стагоддзе — вось так: скаргі, крык-лямант, праклёны, малітвы, прысягі, заклікі Цэлае XX-е стагоддзе! І некалькі стагоддзяў да яго. Якая жахлівая спадчына! Які трагічны лёс народа! Паспрабуй, праўдзівы беларус, не задумацца. Нашэсце за нашэсцем. Ярмо за ярмом. Расправа за расправай. То з Захаду, то з Усходу. То з Усходу, то з Захаду.

Дарэчы, наконт Захаду. Дзіўна мне бачыць, як многія чуллівыя беларускія дэмакраты пускаюць слязу па трагедыі Польшчы ў верасні 1939-га. Зусім адключыўшы памяць ад сакавіка 1921-га. А ўласна — што вы, панове, ад драпежнікаў хацелі? Як кажуць, цягаў воўк — пацягнулі і воўка. Таму — не плачце, а больш думайце, што сталася б з Заходняй Беларуссю, калі б не верасень 1939-га. Яшчэ гадоў трыццаць — і духу беларускага не засталося б! Ні следу, ні знаку! Пры тым тэмпе, з якім вынішчалася ў Заходняй Беларусі беларушчына і ішла паланізацыя, — дык яшчэ і хутчэй, чым праз трыццаць. Ці для вас этнічная смерць беларусаў у санацыйнай Польшчы — не трагедыя? Ці для вас гэта — яно сабе, нічога страшнага? Скажыце, хто пашкадаваў тады, у 1921-м, нас, беларусаў? Хто пусціў слязу, бачачы, як разрэзалі па жывому сэрца краіны? Хто ў Польшчы абураўся і пратэставаў, бачачы, што робяць пілсудчыкі з вялікім славянскім народам? Ніхто, усе лічылі, што гэтак і трэба. Бо, як тлумачылі польскія ксяндзы ў касцёлах, а настаўнікі ў школах, "няма ніякай Беларусі, а ёсць Польшча". Чытайце "Куфэрак",панове, — усе тры нумары. Там столькі ўбачыце праўды і пра Захад і пра Усход, што вашу высакародную дэмакратычную чуллівасць як рукой здыме. І станеце больш думаць пра Беларусь, панове, пра лёс сваёй зямлі і свайго народа.

Скаргі, праклёны, малітвы, крык-лямант і слёзы З гэтым уступаем і ў новае, XXI стагоддзе. На шчасце, не толькі з гэтым. У спадчыну нам дасталося і штосьці іншае. А менавіта — мужнасць і моц духу, любоў і самаахвярнасць, вера і ўпэўненасць у перамогу. З нашага трагічнага XX стагоддзя мы пераймаем як эстафету і клятву-прысягу нязломнага патрыёта Бацькаўшчыны, рана памерлага беларускага ксяндза Аляксандра Астрамовіча (ён жа — таленавіты паэт Андрэй Зязюля):

*Хай срэбра, дукаты мне сыпяць пад ногі*
*І скажуць: багаты будзь, кінь род убогі,*
*Я плюну з пагардай, народу ж і волі —*
*Не здраджу ніколі.*

*Да самага скону, усякім прымусам*
*І сіле прыгону скажу: беларусам*
*Навек астануся, сваёй уласнай волі —*
*Не здраджу ніколі.*

Гэта — таксама з "Куфэрка".




# Канфлікт паміж мастакамі

Напрыканцы лютага адбылося пасяджэнне рады Беларускага саюза мастакоў. Акрамя бягучых пытанняў, збольшага традыцыйных для творчага саюза, радзе было прапанавана абмеркаваць адно досыць нечаканае. Секцыя скульптуры БСМ на сваім сходзе пастанавіла выключыць з ліку сяброў саюза свайго калегу Ігара Голубева. Скульптараў у секцыі 42, 40 з іх прагаласавалі за выключэнне. Рада мусіла зацвердзіць альбо не зацвердзіць рашэнне секцыі. Секцыя абвінавачала Ігара Голубева ў парушэнні прафесійнай этыкі і скарыстанні аўтарытэту БСМ для прыкрыцця непрыстойных справаў. Калі браць да ўвагі, што за дзесяць гадоў, што прайшлі з часу заканчэння І. Голубевым Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута, ён паспеў зрабіць каля дзесяці помнікаў, мемарыяльных знакаў і дэкаратыўна-манументальных кампазіцый, рашэнне секцыі, на першы погляд, падаецца нелагічным. Маўляў, нашто пазбаўляць таленавітага працавітага мастака правоў сябра творчага саюза? Аднак логіка ёсць. Канфлікт паміж Голубевым і ягонымі калегамі ўзнік у сувязі з устаноўкай у Полацку помніка Еўфрасінні Полацкай, аўтарам якога з'яўляецца названы мастак. Помнік падабаецца далёка не ўсім. Дасведчаныя ў мастацтве людзі сцвярджаюць, што помнік не мае эстэтычнай каштоўнасці, што гэтая рэч папросту непрафесійная. Але не гэта галоўнае. Ці мала ў савецкі час паўстала ў Беларусі бяздарных мануменатаў з бронзы, каменю, бетону?

Рэч у іншым. Ведаючы, што ягоны праект адхілены журы рэспубліканскага конкурсу на помнік Святой Еўфрасінні, што перамог праект іншага аўтара, І. Голубеў гэтае рашэнне праігнараваў і, здолеўшы заручыцца падтрымкаю іерархаў Рускай праваслаўнай царквы і гарадскога начальства Полацка, усё ж паставіў у горадзе свой помнік. У сваё апраўданне І. Голубеў гаворыць, што яшчэ да абвяшчэння конкурсу ён меў дагавор з полацкімі ўладамі, і ўстаноўлены помнік — проста рэалізацыя гэтага дагавору. Але ж, маючы дагавор, ты, тым не менш, удзельнічаў у конкурсе, а значыць, мусіў падпарадкоўвацца рашэнню журы — справядліва пярэчаць яму калегі. Хутчэй за ўсё І. Голубеў браў удзел у конкурсе, бо меў падтрымку ці не самога ўладыкі Філарэта і полацкіх начальнікаў і быў упэўнены, што перамога — але ў журы, на ягоную бяду, аказаліся людзі прынцыповыя і прафесійна дасведчаныя. Атрымаўся, як прынята казаць, пракол... Таму сп. Голубеў пайшоў іншым шляхам, і свайго дамогся, але тое, што нармальна ў сферы гандлю, у сферы мастацтва часам называецца парушэннем прафесійнай этыкі.

Выключыць І. Голубева з Беларускага саюза мастакоў не ўдалося. На радзе не хапіла галасоў. Але падобна, на тое, што скульптары ўсё ж будуць свайго дамагацца.

**П. В.**

*ЛІНІЯ ЖЫЦЦЯ*

# Знайдзі ўсяму пачатак...

***Хто не пакутаваў ад пошуку адказу на так званыя праклятыя пытанні: у чым сэнс жыцця, якое прызначэнне чалавека на Зямлі, у Сусвеце? Чаму людзі, якія выраслі ў аднолькавых умовах, хадзілі ў адну школу, харчаваліся аднолькавай ежай, чыталі адны і тыя ж кніжкі, гэтак кардынальна адрозніваюцца па сваіх паводзінах, светапоглядзе і, нарэшце, нават па працягласці жыцця?***

***Аб гэтым гутарка аглядальніка "ЛіМа" Паўла ВЕРАБ'ЁВА з кандыдатам медыцынскіх навук, вучоным сакратаром Аддзялення медыка-біялагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук І. М. СЕМЯНЕНЕМ.***

**— Ігар Мікалаевіч, можна прыняць версію, што сэнс жыцця ў самім жыцці і такім чынам паставіць кропку. Аднак адразу ж узнікае наступнае пытанне: а чаму ўвогуле ўзнікла жыццё?**

— Сёння вядома, што любы жывы арганізм з'яўляецца крыніцай розных выпраменьванняў, у прыватнасці, электрамагнітнага. Такое выпраменьванне нясе ўсю інфармацыю аб аб'екце. Рэгіструючы выпраменьванні касмічных аб'ектаў, сёння можна атрымліваць інфармацыю аб якой-небудзь зорцы, што знаходзіцца ад нас на адлегласці 5 мільёнаў светлавых гадоў. Да гэтага часу зорка магла спыніць сваё існаванне, а вось след ад яе застаўся. Прычым які след? Палевы. Не знікае нічога.

Існуе меркаванне, што на самых ранніх стадыях існавання Сусвет быў запоўнены звышканцэнтраваным полем. Уся інфармацыя аб рэалізацыі касмаганічнага кода, г. зн. аб далейшых структурна-маштабных працэсах самаарганізацыі, уключаючы ўтварэнне хімічных элементаў і рэчыва, была заключана ў тым інтэгральным фізічным полі.

У Казьмы Пруткова ёсць такі выраз: "Адшукай усяму пачатак, і ты многае зразумееш". Сучасныя мысліцелі перафразіравалі словы з Евангелля ад Іаана і сцвярджаюць так: "Спачатку быў код, і код быў у святла, і кодам было святло". Не дарэмна святло называюць самым цёмным месцам у фізіцы.

З гэтых пазіцый можна па-іншаму зірнуць і на феномен жыцця. Аб верагоднасці ўзнікнення жыцця на Зямлі можна прывесці наступныя звесткі. Напрыклад, з элементаў, што ўваходзяць у склад адной з найбольш простых малекул ДНК, можна скласці $10^{130}$ розных камбінацый. Калі б такія спробы рабіліся з хуткасцю мільён у секунду, то за 15-20 мільярдаў гадоў (узрост нашага Сусвету) было б зроблена ўсяго $10^{24}$ спроб. Калі ўлічыць, што ўзрост нашай Зямлі прыблізна 4,5 мільярда гадоў і першыя жывыя арганізмы з'явіліся 4 мільярды гадоў назад, то выпадковасць узнікнення жыцця на Зямлі нікчэмна малая. Вельмі вобразна аб гэтым сказаў амерыканскі вучоны Ч. Вікрамасінгха: "Верагоднасць выпадковага ўзнікнення жыцця на зямлі такая ж малая, як і тое, што хаатычна б'ючы па клавішах пішучай машынкі, можна надрукаваць аповесць або раман". У такой сітуацыі не могуць не прыйсці думкі аб існаванні нейкіх разумных сіл, якія валодаюць высокай энергаінфармацыйнай ёмістасцю і здольныя забяспечыць прасторава-часавую "самаарганізацыю" жывога рэчыва. Па некаторых уяўленнях жыццё на Зямлю было занесена ў выглядзе палявых інфармацыйных форм-галаграм, якія ўздзейнічалі ў пэўным напрамку на эвалюцыю зямнога рэчыва. З гэтых пазіцый пярвічнымі з'яўляюцца так званыя палявыя формы жыцця, а рэчыўныя, цялесныя — другаснымі. Адна з вядучых вучоных у галіне вывучэння мозга чалавека акадэмік Н. Бехцерава прызнавалася: "З гадамі зносін з мозгам мяне не пакідаюць ерэтычныя думкі. Наадварот. Я, напрыклад, веру ў яго іншапланетнае паходжанне".

Пануючае ўяўленне аб феномене жыцця як чыста зямной з'явы ў наш час не вытрымлівае ніякай крытыкі. Жыццё ў значна большай ступені ёсць з'ява касмічная, чым зямная. У гэтым былі перакананы А. Чыжэўскі, У. Вярнадскі. "Стварэнне Зямлі з'яўляецца вынікам складанага касмічнага працэсу, неабходнай і заканамернай часткай стройнага касмічнага механізма, у якім няма выпадковасцяў". Яскрава прасочваецца аналогія з рэлігійным уяўленнем аб боскасці, а з пункту гледжання навукі — высокаарганізаваным палявым стварэнні жывых істот. На думку выдатнага неўролага і псіхіятра акадэміка В. М. Бехцерава, "жыццё і псіхізм сутнасць вытворныя энергіі, а не вытворнае рэчыва. Вывесці свядомасць з рэчыва не толькі да гэтага часу нікому не ўдавалася, але і розум чалавека не ў стане зразумець увогуле пераход ад матэрыі да свядомасці або духу. У пытанні аб прыродзе псіхікі абсалютна выключаюцца ўсе механіка-матэрыялістычныя погляды. Пытанне аб прыродзе псіхікі становіцца ў цесную сувязь з пытаннем аб прыродзе энергіі і ўмовах, якія прыводзяць да асаблівага яе напружання".

Нельга ўявіць, каб такая унікальная прырода на Зямлі і вяршыня эвалюцыі біясферы — чалавек, узніклі выпадкова, спантанна, з грубай коснай матэрыі без умяшальніцтва нейкіх разумных сіл, якія нашмат пераўзыходзяць розум чалавека.

Сёння даказана, што поле і рэчыва могуць ператварацца адно ў другое. Адзначана таксама і структурнае падабенства электрамагнітнай хвалі і двайной спіралі ДНК. Не выключана, што генетычны код уяўляе сабой рэчыўнае ўвасабленне электрамагнітнага кода. Калі пагадзіцца, што нейкі палявы код існаваў першапачаткова, то мы прыходзім да думкі аб вечным існаванні жыцця. Яшчэ Цыялкоўскі дапускаў існаванне ў космасе невядомых разумных сіл і магчымы ўплыў, пранікненне нейкіх разумных сіл у наш мозг і ўмяшальніцтва іх у чалавечыя справы.

Такім чынам, мы прыйшлі да таго, што поле пярвічнае, а рэчыва другаснае, што поле з'яўляецца фундаментальным фактарам, які інтэгруе і вызначае працэсы самаарганізацыі Сусвету.

**— Мы паволі дайшлі да асноўнага пытання філасофіі : суадносін ідэалізму і матэрыялізму, а таксама рэлігіі і прыродазнаўства.**

— Сённяшнія веды дазваляюць лічыць, што свядомасць, думкі чалавека маюць пэўную матэрыяльную, палявую прыроду. І ў святле гэтых ведаў фармулёўка так званага асноўнага закона філасофіі аб суадносінах свядомасці і матэрыі ўяўляецца некарэктнай.

Гэтыя пытанні цесна пераклікаюцца з праблемай узаемаадносін рэлігіі і прыродазнаўства. Яны сходзяцца ў тым, што ў прыродзе існуюць сілы, якія вызначаюць узнікненне і працяканне ўсіх працэсаў. Толькі рэлігія грунтуецца на веры ў Творцу, а навука выкарыстоўвае навуковы метад пазнання для пабудовы навуковай карціны свету. А. Эйнштэйн свае адносіны да гэтай праблемы выказаў так: "Не можа быць канфлікту паміж навукай і рэлігіяй. Навука без рэлігіі скалечаная, а рэлігія без навукі сляпая. Мая рэлігія — гэта глыбока прачулая ўпэўненасць у існаванні Вышэйшага Інтэлекту, які адкрываецца нам у даступным пазнанню свеце".

Глыбокай рэлігійнасцю была прасякнута свядомасць такіх даследчыкаў прыроды, як І. Ньютан, І. Кеплер, Г. Лейбніц, М. Планк. Гіпотэза аб разумным бажастве дае больш прымальнае вытлумачэнне Сусвету, чым любая другая гіпотэза. А поспехі прыродазнаўцаў умацоўваюць надзею на паглыбленне нашага разумення таго, як ажыццяўляе ўпраўленне прыродай кіруючы ёй Усемагутны Розум. Рана ці позна адбудзецца зліццё навуковых адкрыццяў у галіне ядзернай фізікі і рэлігійнай канцэпцыі.

На сёння рэлігію можна лічыць сістэмай тлумачэння таямнічых сіл прыроды, яе фундаментальных асноў, а з другога боку рэлігія — гэта адзіны спосаб духоўнай гарманізацыі грамадства. А што такое тады атэізм? Як вызначыла жонка Д. Андрэева А. Андрэева, "атэізм быў ваяўнічай камандуючай, надзеленай неабмежаванай уладай праграмай знішчэння ўсяго, што мы абагульняем паняццем "духоўны". У Германіі праводзіліся статыстычныя даследаванні, з якім вынікае, што частата ўзнікнення псіхозаў і самазабойстваў узрастае паралельна са стратай рэлігійнай веры. Узаемадзеянне навукі і рэлігіі можа даць штуршок да вырашэння праблем энергаінфармацыйнага абмену ў прыродзе, у прыватнасці, развіццю на матэрыяльнай аснове старажытнага вучэння аб псіхічнай энергіі.

І вось тут самы час вярнуцца ў пачатак размовы і адказаць на пытанне, чаму ўзнікла жыццё. Энергаінфармацыйнае поле, або Вышэйшы Інтэлект, відаць, не могуць існаваць без псіхаэнергетычнай падпіткі. Менавіта таму і былі створаны на Зямлі біялагічныя аб'екты, здольныя прадуцыраваць псіхічную энергію. Дарэчы, псіхічную энергію генерыруюць не толькі чалавек, але і дрэвы, і кветкі, і жывёлы.

**— Калі прычына ўзнікнення жыцця — неабходнасць генерыраваць псіхічную энергію, то чаму ўсё ж людзі такія розныя?**

— Псіхаэнергагенератар не можа працаваць без працідзеяння. У так званай "нежывой" прыродзе гэтым працідзеяннем з'яўляюцца прыродна-кліматычныя ўмовы. Каб выжыць, расліны вымушаны выпрацоўваць механізмы прыстасавання. У чалавечым грамадстве гэта сутыкненне розных поглядаў і інтарэсаў. Адбываецца бесперапыннае супрацьстаянне розных якасцей думкі, розных якасцей псіхічнай энергіі. Ведаючы, што думка матэрыяльная, і што поле і рэчыва могуць ператварацца адно ў другое, чалавеку варта сцерагчыся дрэнных думак. Гэтыя думкі з'яўляюцца крыніцамі мноства хвароб. Устаноўлена залежнасць саставу крыві ад мыслення.

Працягласць жыцця чалавека таксама залежыць ад якасці і інтэнсіўнасці разумовай, псіхічнай дзейнасці. Прааналізаваўшы працягласць жыцця розных слаёў насельніцтва, мы заўважым, што больш жывуць людзі, якія шмат і творча працуюць, генерыруючы пры гэтым стваральную псіхічную энергію. Так, сярэдняя працягласць жыцця мужчын Беларусі каля 62 гадоў. Сярэдні ўзрост працуючых сёння акадэмікаў НАН Беларусі — 67,5 года, а акадэмікаў-медыкаў — 74 гады. А са 130 памерлых акадэмікаў — 38 пражылі па 80 і больш гадоў, а сярэдняя працягласць іх жыцця склала 73 гады.

Гісторыі вядома шмат выпадкаў, калі чалавек, які інтэнсіўна генерыруе псіхічную энергію, сілай гэтай энергіі перамагаў шматлікія хваробы. Відавочна, Вышэйшы Інтэлект зацікаўлены ў захаванні такіх людзей.

Вельмі яскравы ў гэтых адносінах прыклад акадэміка А. Ляпунова. Быўшы смяротна хворым: цяжкі дыябет, сардэчная арытмія, гангрэнознае паражэнне ног, і знаходзячыся ў бальніцы, Аляксей Андрэевіч не перапыняў навуковую работу. Ён саму хваробу ператварыў у прадмет навуковага даследавання. З пацыента ён стаў навуковым кіраўніком медыцынскага калектыву. Толькі апантаная творчасць з'явілася тым эліксірам, які дазволіў вучонаму, заснавальніку айчыннай кібернетыкі пражыць яшчэ дваццаць гадоў насуперак безнадзейным прагнозам медыцыны. Гэта сапраўды была перамога духа над цялеснай хваробай.

Нельга не ўспомніць і Мікалая Астроўскага. Аслеплы, прыкаваны да ложка, ён пісаў: "Калі я працаваў па дзесяць гадзін у суткі, я яшчэ адчуваў сваю хваробу, але калі я стаў працаваць па васемнаццаць гадзін, у мяне не засталося часу на хваробу. Жахлівая ўласная трагедыя знішчана, і ўсё жыццё поўнае трыумфуючай радасці творчасці. ... Месяцы два назад я ледзь не загінуў, у мяне камень разарваў жоўцевы пухір, атрымалася кровазліццё і атручэнне жоўцю. Урачы тады ў адзін голас сказалі: "Ну, цяпер амба!" Але ў іх зноў не атрымалася і я выцарапаўся, зноў наблытаўшы ў медыцынскіх аксіёмах".

Гэтыя прыклады сведчаць аб тым, што жыццё чалавека, гэта перш за ўсё жыццё яго псіхікі. Могуць працаваць сэрца, лёгкія, пячонка і г. д., але калі згасае свядомасць — чалавека ўжо нельга назваць чалавекам. Такім чынам, галоўнае і найважнейшае для Сусвету — псіхічная энергія. Толькі з дапамогай псіхічнай энергіі могуць ажыццяўляцца праграмы самаарганізацыі, самаразвіцця Сусвету. І энергія гэта генерыруецца на Зямлі.

Чалавечы розум імкнецца зразумець загадкі Вышэйшага Розуму. На гэтым шляху Сусветнай эвалюцыі, на шляху стваральнасці ён знаходзіць радасць і заступніцтва ўсеўладных сіл прыроды.

# Апошні Бабчына жыхар...

(*Заканчэнне. Пачатак на стар. 3*)

**— У Бабчыне зараз запаведнік?**

— Палескі радыялагічны. Адну хату пад гасцініцу адвялі, Мыечную станцыю для аўтамабіляў зрабілі. Вахтавым метадам навукоўцы працуюць, вывучаюць, як на зямлю радыяцыя ўздзейнічае.

**— Наколькі ведаю, кнігу "Бабчын" вы пісалі ў роднай вёсцы, адселенай і забруджанай?**

— Не ўсю кнігу, адзін з яе раздзелаў. Дзеля гэтага два тыдні жніўня 94-га пражыў у Бабчыне. З дазіметрам хадзіў па кінутых хатах. Успамінаў, занатоўваў. Уражанне жудаснае, калі вось так — сам-насам з радыяцыяй — асэнсоўваць сутнасць нашай вялікай бяды. Натуральна, мог бы не ехаць, не рызыкаваць, уберагчыся, але хварэў бы сумленнем, калі б не напісаў "Бабчын".

**— Па Радаўніцах, відаць, усе землякі збіраюцца на кінутай радзіме?**

— Так. З дзесятак разоў і я там быў. Зараз, праўда, з маімі хваробамі ўрачы, мякка кажучы, не вельмі рэкамендуюць... Уразіла Радаўніца 92-га. Літаральна ўсе з'ехаліся. Плакалі на могілках не толькі па мёртвых, але і па жывых. Восем сем'яў з груднымі дзецьмі прыехалі. Мужчыны, падпіўшы, пачалі прэтэнзіі выказваць: маўляў, паменей вы б пра радыяцыю пісалі, глядзіш, і не было б ніякіх адсяленняў. Ні слова я не сказаў. Дзякаваць Богу, дазіметр быў. Паклаў я яго на зямлю, а ён, радыяцыю адлічваючы, нават не пікае, а свішча. Толькі так і пераканаў. Пяць сем'яў з васьмі адразу з'ехала. Але кожнаму маломy я сваю дзіцячую кніжку падпісаў, як быццам пасведчанне іхняга знаходжання ў зоне выдаў... Мо й не трэба было б пра гэта казаць: калі б не Аксакаўшчына, перапоўненая хворымі на анкалогію дзецьмі...

**— Згодны з тым, што чалавецтва лечаць не хлуснёй, а праўдай...**

— Ды як жа інакш! Жыхары Хірасімы і Нагасакі жывуць зараз на 5-6 год даўжэй за астатніх японцаў, бо праблема радыяцыйнай бяспекі не замоўчваецца, а вырашаецца з прыцягненнем усіх навуковых сіл. А мы ўсё раўняемся на светапогляд 80-гадовай бабулькі. "Не баішся, старая, радыяцыі?" — "Не баюся, сынок!" — "Ну й малайчына, жыві!" Ці ж гэта падыход да трагедыі планетарнага маштабу?! Пры ім нашы дзеці да 80-гадовага ўзросту проста не дажывуць. Людзей берагчы трэба. А ліквідатары аварыі — ізгоі, не патрэбныя грамадству. І я добра разумею маладых спецыялістаў, якія пасля ВНУ не жадаюць ехаць у зону. Пра які масавы гераізм гаворка, калі ён не аплачваецца дзяржаўнай увагай. Выдатны навуковец Васіль Несцярэнка змагаўся за тое, каб звесці ўздзеянне радыяцыі на людзей да мінімуму. А ўзамен атрымаў у свой інстытут ядзернай фізікі праверку і інфаркт. На Украіне і ў Расіі забруджаныя землі цалкам выключаны з севазвароту. У нас чамусьці іншы падыход. Я разумею, што калі паставіць на такой зямлі крыж, на Беларусі прыйшлося б ліквідаваць аж восем раёнаў. Але ўрэшце час ужо вызначыцца, што для нас больш важна — плошча ворыўнай зямлі ці бяспека пражывання людзей. Так, пры вырошчванні сельгаспрадукцыі на такіх землях выкарыстоўваецца самая сучасная тэхналогія. Але я добра памятаю і пра тое, як колішні рэктар Гомельскага універсітэта Барыс Бокуць адкрытым тэкстам казаў, што адзін атам плутонію можа выклікаць ракавае захворванне. Уяўляеце, чым і як мы рызыкуем, калі на сотню "чыстых" бульбін трапіцца адна "брудная"?! Засмучае і тое, што ў Беларусі глядзяць на чарнобыльскую праблему так, быццам яна засталася за калючым дротам зоны. Але кожны з нас жыве на атамным рэактары. На Украіне распрацавана і эфектыўна выкарыстоўваецца тэхналогія ўжывання пекцінавых дабавак для вывядзення з арганізма радыенуклідаў. Мы ж да гэтага нават не падступаемся. Калісьці адселеныя гарады зноў засяляюцца..

**— У нашай Ветцы зараз дзяцей, здаецца, не менш, чым было да аварыі.**

— Тое ж і ў Стралічаве, што ў шасці кіламетрах ад Бабчына. Хоць новую школу адкрывай. І саўгас узноўлены.

**— Чарнобыль, пастунова знішчае нас фізічна. Ці здолеем мы аб'яднацца супраць агульнай бяды, ці здолеем прыйсці да ачышчэння духоўнага?**

— Гэта абавязкова адбудзецца! Хто чуў да аварыі словы "радыенуклід", "бекерэль", "зіверт"... Цэлы моўны пласт, кожная адзінка якога не застаецца незапатрабаванай. Мае землякі зараз гавораць мовай прафесійных атамшчыкаў. Гэтае веданне, новы жыццёвы вопыт прымушаюць зараз ледзь не кожнага з нас задумацца з фактамі і лічбамі ў руках: куды мы ідзём і чым закончыцца эксперымент над беларускай нацыяй...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

ЛіМ **ЧАСАПІС**

## "Завеі, снежань..."

**Назву кнізе народнага пісьменніка Беларусі Івана Мележа, выпушчанай выдавецтвам "Юнацтва", даў трэці раман з "Палескай хронікі", які, як вядома,**

Іван Мележ

Завеі, снежань...



**застаўся незавершаным. "Завеі, снежань..." — далейшае асэнсаванне слынным майстрам жыцця палескай вёскі ў час пераломных падзей. Гэты раман добра звязаны з папярэднімі, але яго можна ўспрымаць і самастойным, не ў апошнюю чаргу таму, што ў творы з'явіўся новы галоўны герой — сакратар райкама партыі Аляксей Іванавіч Башлыкоў, з якім чытач упершыню пазнаёміўся ў "Подыху навальніцы". Асабліва псіхалагічна-праўдзівыя і пераканаўчыя эпізоды, дзе расказваецца пра каханне Башлыкова да Ганны. Кульмінацыйны момант гэтага кахання — заключныя старонкі, калі Ганна адважваецца сказаць Башлыкову ўсю праўду пра сябе:**

**"— Ты чаго? — здзівіўся ён.**

**— От думаю. Вінавата я перад табой...**

**— Вінавата?**

**— Вінавата вельмі. Не сказала табе, што трэба.**

**— Што?**

**— Хто буў мой муж.**

**— Хто ён?**

**— Яўхім. Глушак Яўхім. З Куранёў.**

**— Яўхім Глушак!**

**Яна бачыла: твар Башлыкова раптам увачавідкі пашарэў. Твар гэты працяла трывога. Але разам Башлыкоў глядзеў так, як бы не верыў. Як бы чакаў, што яна зараз скажа — пажартавала". Ганна сама робіць апошні крок: "Пайшла ад яго. Разумеючы ясна, што ідзе назаўсёды. Што ўсё скончылася. Ледзь пачаўшыся".**

**Калі сённяшні чытач з рамана "Завеі, снежань..." добра знаёмы, дык гэтага не скажаш пра аповесць "Дом пад сонцам", што таксама ўвайшла ў кнігу. Твор напісаны яшчэ ў 1954 годзе. Падзагаловак "З гісторыі аднаго дома" сведчыць, што І. Мележ звузіў сюжэтныя рамкі аповесці. Сапраўды, праз гісторыю дома ён паказвае, як адбудоўваліся пасляваенныя беларускія гарады. Прываблівае вобраз шаўца Андрэя Загорскага, які з сям'ёй вяртаецца ў разбураны родны горад. Па-свойму запамінальнымі атрымаліся прараб Андрэй Іванавіч Лосік, Марыя Іванаўна, паэт Дуброўскі і іншыя. Разам з тым нельга не адзначыць, што ў гэтай аповесці пісьменнік толькі набываў майстэрства, таму яму не ўсё ўдалося ажыццявіць у належнай ступені. Асобныя канфліктныя сітуацыі вырашаюцца лёгка, ды і не ўсе яны псіхалагічна матываваны. Але з аповесцю цікава пазнаёміцца, як і з апавяданнямі "У завіруху", "Ноччу", "Такі кароткі водпуск", "Незнаёмы", "Памылка", "Спатканне за горадам". Яны дазваляюць адчуць, як І. Мележ у сваёй творчасці набываў упэўненасць, як паступова, ад твора да твора, ішоў да сваёй эпічнай прозы, вяршыняй якой і стала "Палеская хроніка". Відавочна і тое, што лепшыя апавяданні сведчаць аб тым, што І. Мележ, валодаючы вялікім талентам, нават у пачатку сваёй мастакоўскай дарогі дасягаў значнага поспеху, з цягам часу вучыўся больш праўдзівей і шматгранней адлюстроўваць жыццё. І сёння, у прыватнасці сваім майстэрствам уражвае апавяданне "У завіруху", дарэчы, прысвечанае Кузьму Чорнаму, які першым заўважыў талент І. Мележа. Апавяданне напісана ў 1944 годзе, у бацькоўскай хаце, на куфры, што ў ваеннае ліхалецце ўцалеў з усяго набытку. Галоўны герой твора — салдат Мікалай Засмужац — паказаны ў тых суровых абставінах, якія вымагаюць ад чалавека вялікай сілы волі, духоўнай стойкасці і фізічнай вынослівасці. Пісьменнік прызнаваўся: "І завіруха, і дарога, і стомленасць — усё гэта было ў мяне, я пісаў, можна сказаць, пра сябе".**

**Праўдзівыя рэаліі ў апавяданні "Незнаёмы": калі салдат вярнуўся з вайны, маленькі сын не пазнаў у ім бацьку, бо паспеў адвыкнуць ад блізкага чалавека. Ды і іншыя апавяданні будуць з цікавасцю прачытаны. Найперш старшакласнікамі, каму ў першую чаргу і адрасуецца кніга.**

**Міхась ГЕНЬКА**

КРЫТЫКА

# Боль бунту

Тэма існавання канкрэтнай формы быцця ва неўласцівых ёй прасторы і часе прасочваецца ва ўсіх творах Віктара Казько. Найбольш удала гэтая ідэя сфарміравана і рэалізавана ў новым рамане Віктара Казько "Бунт незапатрабаванага праху" ("Полымя", 2000, №№ 3—5).

Гэты твор увабраў і абагуліў усе ранейшыя дасягненні пісьменніка. Асаблівасць рамана заключаецца ў падпарадкаванні мастацкай тканіны тэксту не дэдуктыўнаму спосабу, якога прытрымліваецца пераважная большасць беларускіх празаікаў, а індуктыўнаму, што вымагае пэўных герояў і пэўнага сюжэта для рэалізацыі аўтарскай мадэлі існавання свету.

Што датычыцца жанрава-відавой характарыстыкі рамана, то адназначна вызначыць яе, напэўна, не рызыкнуў ні адзін з даследчыкаў. Да месца будзе нагадаць, што П. Васючэнка адносіць творчасць В. Казько да інтэлектуальнай прозы, дзе "вобразнасць, часта ўмоўная, відавочна працуе на актыўную мастацкую думку". У літаратуру ўваходзіць новая канцэпцыя свету, асобы, што прымушае змест шукаць адпаведнай формы. В. Казько развівае ўласны пісьменніцкі вопыт, набыты ім пры стварэнні раманаў "Неруш" (Неруш. Раман. Мн., 1983) і "Сад, альбо Заблытаны след рамана" ("Полымя", 1986, №№ 7—9). Аднак у аповесцях пераважала ўсё ж лінейная кампазіцыя, адступленні ад яе выяўляліся эпізадычнымі "наплывамі ўспамінаў і выхадамі за межы эпічнай фабулы ў ірацыянальныя сферы жыцця герояў".

Сам пісьменнік сцвярджае: "Сюжэтаў не люблю, бо гэта канструяванне. Люблю ісці за асацыяцыямі і думкамі". Н. Дзягцяр лічыць, што В. Казько "змог сінтэзаваць мастацкія прынцыпы сацыяльна-псіхалагічнай прозы і ўласна філасофскія элементы". Гэта абумоўлена спецыфічным аб'ектам даследавання пісьменніка — катэгорыяй агульначалавечага. Увогуле, ідэал чалавечнасці і разумнасці, займаючы цэнтральнае месца ў філасофска-мастацкай сістэме аўтара, шмат у чым абумоўлівае ідэйны пафас твораў пісьменніка, іх шматузроўневую структуру. Вось чаму аднесці прозу В. Казько толькі да сацыяльна-філасофскай або псіхалагічнай, лірычнай, вясковай ці гарадской — значыць сутнасна не ахапіць творчасці мастака. Тым не менш рызыкнём у якасці рабочай гіпотэзы выказаць некаторыя меркаванні, скарыстоўваючы вопыт папярэдніх даследчыкаў. Прыкладна жанр рамана можна вызначыць як "раман-светаадчуванне", бо ён "ствараецца на нашых вачах, не паводле традыцыйнай, прадбачанай схемы, што надае твору рухавасць і пластычнасць формы, размываючы мяжу паміж умоўнасцю, фантастыкай і рэальнасцю".

Бясспрэчна, "Бунт незапатрабаванага праху" належыць да інтэлектуальнай плыні рэалістычнага напрамку з элементамі паглыбленага псіхалагізму. Можна гаварыць аб новай сінтэтычнай форме. Але не трэба блытаць яе з новаўтварэннем, структурнымі адзінкамі якога з'яўляюцца ўжо вядомыя элементы. Гэта якасна адметная з'ява. Дарэчы будзе ўспомніць сусветнавядомага нашага земляка Л. Выгоцкага з яго тэорыяй сінтэзу ў развіцці мысленчай дзейнасці чалавека. У літаратуры наглядаюцца тыя ж працэсы, таму што яна адлюстроўвае ўзровень інтэлектуальнага развіцця грамадства, дзе развіццё і фарміраванне вышэйшых узроўняў чалавечага мыслення адбываецца, паводле псіхалагічнай тэорыі Л. Выгоцкага, з паралельным захаваннем адносна простых і прымітыўных форм разумовай дзейнасці чалавека.

Няма сэнсу пералічваць усе тэмы творчасці В. Казько. Трэба толькі адзначыць, што пісьменнік разглядае чалавечае жыццё, быццё наогул як частку і працяг сусветнага руху.

Цікавасць уяўляюць вобразы-сімвалы, якія выкарыстоўвае пісьменнік для рэалізацыі сваёй творчай канцэпцыі. Так, напрыклад, катэгорыю часу аўтар асэнсоўвае праз вобразы моста, дарогі і ракі. Асаблівая ўвага надаецца менавіта воднай стыхіі, якая ў міфалогіі выступае эквівалентам хаосу, сімвалам пладароддзя, зачацця і нараджэння, нясе семантыку мацярынскага ўлоння і пладаноснага мужчынскага семя. Аднак сімвал вады характарызуецца амбівалентнасцю. Паралельна з вышэйзначаным водная бездань сімвалізуе небяспеку ці з'яўляецца метафарай смерці. Такім чынам, вада выкарыстоўваецца пісьменнікам у якасці фундаментальнай стыхіі светастварэння, першапачатку, зыходнага стану ўсяго існуючага. Нават імя галоўнага героя, яго варыянты падкрэсліваюць шматзначнасць воднага сімвала — Юры, Герман, Георгій, Макрыян. Гэтыя імёны спалучаюць хрысціянскія міфы і язычніцкія вераванні і надаюць цэласнасць і самастойнасць мужчынскаму вобразу, у якім спалучаюцца функцыі ахоўніка і пладавітага пачатку.

Вада, магчыма, толькі адна ў прыродзе мае здольнасць забіраць чужы боль, чужую горыч. А такія якасці, як шчырасць, спагада, дабрыня характарызуюць адно з асноўных чалавечых пачуццяў — любоў. Не трэба забываць, што і сам чалавек складаецца ў большай частцы з вады, а значыць з адчування чужога болю. І як толькі мы страчваем здольнасць кахаць, любіць, для нас зачыняюцца вароты раю. Трымае нас у турме адзіноты ўласны страх, які не дазваляе "пераступіць болевы парог" нашых кратаў. Але страх, як і іншыя пачуцці, з'яўляецца спараджэннем розуму. Значыць набыццё зямнога раю ці пекла кожным чалавекам вызначаецца яго жаданнем ці нежаданнем адкрываць сэрца чужой скрусе і адчаю.

Раман "Бунт незапатрабаванага праху" і служыць адлюстраваннем дасягнення ўнутранага раю. Працэс гэты ў большасці сваёй кіруецца верай і адданасцю чалавека сваім пачуццям. А цэласнасць і гармонія душы забяспечваюцца адвечным зліццём жаночага і мужчынскага пачаткаў, якія аўтар увасобіў у вобразах Надзеі і Юрыя.

Ідэйна-мастацкая асаблівасці рамана "Бунт незапатрабаванага праху" заключаюцца ў тым, што В. Казько перанёс акцэнт з сацыяльна-бытавога на палітычна-філасофскі. Тым больш і хранатоп гэтага рамана ў параўнанні з двума першымі пашырыўся і ахапіў амаль два стагоддзі — 19-е і 20-е. Гэта дазволіла супаставіць два "цыклы" людскога існавання і зрабіць больш значныя і аб'ектыўныя заўвагі і вывады.

На мяжы вякоў, як ужо заўважана, заўсёды адбываецца так званае "браджэнне розуму". Але прычына такога сусветнага руху застаецца невядомай. Шматлікія мастацкія творы, што занатавалі роздумы над гэтым пытаннем, таксама не даюць задавальняючага адказу. Магчыма, сам час прымушае скідаць ужо скамянелы панцыр ранейшых ідэй і прынцыпаў. І адбываецца гэта толькі тады, калі да існавання і адпаведна да ўспрымання ўжо падрыхтаваныя новыя погляды, якім, у сваю чаргу, даводзіцца змагацца за свае прыярытэты, адчуваючы кожным паняццем і элементам незамацаванай канцэпцыі няласкавасць і крытычнасць рэчаіснасці. У жорсткай барацьбе новыя погляды набываюць браню, праз якую адначасова ратуюцца і пазбаўляюцца сувязі з навакольным светам.

Таму толькі адкрытасць жыццёвай плыні можа праверыць нашую гатоўнасць да болевай рэфлексіі. Яна, нібыта засвоены метад П. Іванова, дазваляе нам не хварэць доўгі час. Але, як ні парадаксальна, пазбавіўшы сябе болю, мы ізноў вяртаемся да яго. І гэтае вяртанне прымушае нас нанова адчуваць і пазнаваць сябе з самага пачатку.

Можна лічыць заканамерным, што раман "Бунт незапатрабаванага праху" пачынаецца з апісання стану класічнай дэпрэсіі: "скруха і адчай раздзіраюць і крышаць" нашую душу, уводзячы яе ў цэнтру ўяўнай бездапаможнасці, прымушаючы нас ненавідзець уласную недасканаласць і мізэрнасць. Чаму нас так страшыць праўда пра саміх сябе? "Праўда ж сама па сабе не страшная, як і смерць".

Адчуванне страху, як і астатнія пачуцці чалавека, з'яўляецца звычайнай думкай, якая мае звычай кіраваць нашымі ўчынкамі. Чалавек жа па сваёй натуры вельмі схільны прыпісваць сабе чужыя думкі і погляды. І таму мы па ўласнай згодзе пачынаем асуджаць тое, што павінны прыняць як непадзельную частку свайго "Я".

Гэты механізм нябачнай падмены чалавечых думак працуе на працягу шматлікіх стагоддзяў. Але час ад часу наш розум не спраўляецца з рацыяналізацыяй спрадвечных памкненняў. І тады з глыбіняў нашай свядомасці выходзіць "самы сапраўдны звер, драпежнік, якога немагчыма ні адстрэліць, ні ўлагодзіць".

Асэнсаванне свайго месца ў свеце не церпіць адсутнасці пачуцця прыналежнасці. Патрэба ў ідэнтыфікацыі вядзе чалавека да аналізу свайго космасу, дзе так цесна і непарыўна пераплецены дабро і зло, да ўнутранага свету іншых людзей. Шлях ад хаосу душэўных перажыванняў да іх гармоніі надзвычай складаны. Ён хутчэй нагадвае велізарны гадзіннік, дзе маятнік нашага жыцця ў імклівай непазбежнасці ўзнімаецца да дазволеных вяршынь космасу і з хвілінным заміраннем сілай чалавечых сумненняў імкнецца праз хаосмас да вяршынь хаосу. Самых упартых у асэнсаванні гэтага руху чакае шчасце і страх. І нельга вызначыць, што лепш, бо "ад шчасця таксама можна захлынуцца, утапіцца".

Пошук уласнай гармоніі нясе нас у чаўне звычайнага жыцця па вечных хвалях Леты, асвятляючы шлях маленькай свечачкай сумлення. У цемры вечнасці мы шукаем сябе. Хто мы? Адкуль прыйшлі і навошта?

Сумненне ў прыналежнасці чалавека да зямлі, у адзінстве пачаткаў яго і прыроды ўзнікае разам з начнымі кашмарамі грамадства. "Падсунулі маці-зямлі нешта двухногае і крыкліва-мітуслівае і прагнае, як вош інапланетную запусцілі на цела зямлі". Войны, катастрофы, маральная і фізічная дэградацыя дазволілі назваць чалавека "ўмела і адмыслова зробленай тупіковай часткай зямнога, што ўявіла, убіла сабе ў галаву, нібыта яна яе пачатак і вянец тварэння". Прычыну гэтаму варта шукаць у мінулым. Але трапіць туды можна толькі з дапамогай памяці, якая, што сабака, вядзе нас па следзе няшчасцяў. Нават не вядзе, а прымушае бегчы, ратуючы сваю сутнасць ад "двухногай зграі".

Душа чалавека — гэта "гігант, істота амаль дагістарычная", босы святар, у якім змясціліся Хрыстос і Д'ябал. Шкада, што толькі цывілізацыя пад пагрозай смерці вяртае душу на пакінуты Алімп. Нават смешна, што магутны дух уцякае ад "акультураннага" карліка. Не пагоня прымушае нас да "вялікага вяртання", а яго вялікасць страх — самы магутны ўласнік нашых учынкаў. Адрозненне чалавека ад жывёлы якраз і заключаецца ў тым, што чалавек здольны змагацца са страхам.

Сваім розумам людзі нараджаюць сумненне, якое, на дабро ці зло, штурхае нас на пошукі новых сцежак да недасяжнай ісціны. Першы прыклад сумнення ідзе ад Сатаны, які дазволіў сабе самастойна мысліць. Ён не толькі сам пачаў выбіраць свой лёс, але даў такую магчымасць і Еве. Яна падзялілася сакрэтам з Адамам. І, як сапраўды верная і ідэальная пара, яны — Адам і Ева — пакінулі разам Эдэм. Дазволіць сабе вырашаць свой і чужы лёс да першага грэхападзення мог толькі Бог. Таму словы Сатаны аб тым, што, паспытаўшы яблыка з дрэва пазнання дабра і зла, людзі стануць як Бог, спраўдзіліся.

Спроба пахіснуць трон сусвету заўсёды ўспрымаецца як бунт. А бунт Сатаны, як і бунт наогул — гэта спроба вызвалення. Тым больш за волю заўсёды трэба плаціць. "Чалавек за ўсё сплочвае адзіным, што сапраўды яго — жыццём". Але і гэтая каштоўнасць часам становіцца штучнай, бо "мы больш схільныя не жыць, а прыдумляць сваё жыццё". Такая свабода толькі ўяўная. Яна не патрабуе ад нас фізічнай і псіхалагічнай вытрымкі. Таму і не жыве здаровы дух у нездаровым целе. Ды і наогул, "у нашай краіне лаўчэй быць інвалідам".

Гэтае "лаўчэй", якое не супярэчыць агульнай тэорыі адаптацыі, і праводзіць меліярацыю нашае душы ўдарнымі тэм-

ПРОЗА

## Арэлі

Мужныя бальшавікі бегалі па плошчы, раскідвалі лістоўкі. Заклікалі да зверажэння, знішчэння, рабавання. Дынамік тэлевізара хрыпеў і захліпаўся. Залп "Аўроры" ўзарваў кінескоп. Я кінуўся да "скрынкі", вырваў шнур. Давілі яны мяне, даканалі, дасталі, гады, рвуцца з гразі ў князі. Хапіла па горла! У вантробах сядзяць са сваёй агітацыяй! Што ж, атрымайце і вы! Агітацыя дык агітацыя!

План, як раскідаць, рассеяць, распаўсюдзіць (папярэдне ўмудрыўся надрукаваць і гэта, магчыма, цягне на асобны аповед) у цэнтры мільённага горада немалую колькасць лістовак з заклікамі да барацьбы з камуністычнай дыктатурай, да зверажэння злачыннага рэжыму і пры гэтым не быць злоўленым, я распрацаваў летам 1972 года, калі дачытваў апошнія старонкі дзевяцітомнага збору твораў Івана Буніна. І па сёння не вельмі

Другі.

Будуць біць (не самі, вядома, знойдуць ахвотнікаў, шваль якую-небудзь, зэкаўскую брудную поскудзь). Чаго добрага, зробяць інвалідам. І да самае смерці ты застанешся прыкаваным да ложка. А табе гэта трэба?

Трэці.

Забудзь пра далейшую вучобу. Якая вучоба ў калоніі для непаўналетніх злачынцаў пад сціплай назваю — СпецПТВ?

Ёсць і іншыя прычыны, па якіх непажадана трапляць у лапы нашчадкаў Фелікса, але ўсё ўзяць пад увагу або паплічыць немагчыма. Наогул, аказаўшыся ўнізе, на рагу вуліцы Леніна і ягонага ж імя праспекта (ну няма ў нас сваіх, вартых павагі герояў!), я, як просты савецкі чалавек, сціплы вучань 8 "б" класа звычайнай мінскай трынаццатай СШ, паспяшаўся зліцца з узбуджаным натоўпам, гэта значыць — з масай. Разам з іншымі спрабаваў лавіць лістоўкі, што падалі з неба. І нават адну ўхапіў. Тэкст, само сабою, ведаў напа-

— Я тут. Што здарылася? — паказаўся з-за схованкі.

—Ты зноў нічога не еў! Дзеля чаго я ўвесь ранак ля пліты стаю? Зараз жа за стол!

Мая клапатлівая добрая мама! Адно і турбуецца, каб сын не быў галодны. І абавязкова ўсім суседзям паведаміць, што і дзе я.

— Іду, іду, падымаюся,— прамармытаў таропка.

Заходзіў у кватэру і ўсё яшчэ хваляваўся, гадаў — высачылі ці не? Агледзеўся: сапраўды нікога, адна мама. Здаецца, усё ціха. Што ж, можна і перакусіць.

Павячэраўшы, узяўся за ўрокі. Вучыў, як апошні раз, быццам намагаўся за вечар вызубрыць усю гадавую праграму. Што, калі і праўда ў мяне не будзе гэтага года?

З трывожнымі думкамі лёг спаць. Стомленасць усё ж узяла верх над хваляваннем, і неўзабаве сон прыняў мяне ў сваі абдымкі.

Леанід МАРАКОЎ



# ТРЫ АПАВЯДАННІ

З ТРОХ БУДУЧЫХ КНІГ

разумею (бо "Акаянных дзён" там не было), якім чынам навёў мяне класік на думкі аб пратэсце і злачыннасці далейшага маўчання. Можа, таму ён і класік?

Дату для акцыі выбраў не выпадкова: сёмага лістапада. Хацелася падражніць звера акурат у дзень ягонага нараджэння. На страсе ГУМа змайстраваў прыладу, да якое быў неабыякавы з маленства, — арэлі. Звычайныя: дошка на двух жалезных, паралельна змацаваных трохкутніках ("пазычыў" іх у дзіцячым садку, няхай даруе мне малеча, усё ж на святую справу ўзяў). Цяжкія арэлі давялося разабраць (балазе, яны былі звінчаныя, а не звараныя) і падняць на дах па частках. На адзін канец дошкі (бліжэйшы да краю страхі) паклаў стос лістовак. Іх зверху (каб вецер не садзьмуў) прыціснуў загадзя падрыхтаванай чвэрткаю цагліны, прывязанай да трохкутніка асновы (каб знячэўку па галаве каму не пацэліла і не давялося адказваць адразу па некалькіх артыкулах крымінальнага кодэксу— нават з гэтым азнаёміўся на ўсялякі выпадак; не забыўся і пра пальчаткі: на кнігу нейкага француза пра дактыласкапію і бельтыльянаж напароўся яшчэ за год да таго, аказаўшыся "з выпадку" ў адной з бальніц Гомеля). Калі гэты канец дошкі пойдзе ўніз, мой груз павісне на вяровачцы, а лістоўкі пасыплюцца долу. З другога боку — працівага: вядро з вадою. Падрыхтаваў яго таксама загадзя: збоку, крыху вышэй днішча, прабіў цвіком дзірачку і заткнуў зрэзаным пад конус белым ласцікам (Made in Hungary, між іншым! — падарунак багатай маскоўскай цёткі). Заставалася дачакацца моманту, калі на праспекце будзе найбольш народу, — час пік.

Хвіліны чакання паўзлі да жаху марудна, але любая пакута калі-небудзь канчаецца. Зірнуўшы чарговы раз уніз, вырашыў, што большага наплыву людзей на скрыжаванні бадай не будзе, і асцярожна выняў гумку-затычку.

Тонкім струменьчыкам паліласа вада. Хутка, хутка вядро пачне падымацца. Закалацілася сэрца. Лічыльнік уключаны. Час ратавацца! Кінуўся ўніз. "З месца гістарычных падзей пажадана знікаць як мага хутчэй", — разважаў, лічачы адначасова і прыступкі (па чатыры), і довады на карысць таго, што трэба спешна ўцякаць.

Першы.

Калі зловяць, дык ніхто пра героя-адзіночку нават не пачуе. Не даведаецца пра цябе ні вялікая Гісторыя. Застанешся ты ў ёй цёмнаю плямаю — замест таго, каб стаць ахвярай дэспатызму, барацьбітом за святую справу (зноў іхняя лексіка — во як затлумілі мазгі!). Тут табе не кіно, гэта — жыццё.

мяць, але прачытаў яшчэ раз з задавальненнем (не ўголас, вядома, а сам сабе, як гэта рабілі ўсе, каго ашчаслівіў):

"Дарагія суайчыннікі! За пяцьдзесят пяць гадоў знаходжання ва ўладзе бальшавіцкі рэжым выявіў сваю поўную няздатнасць. Узровень жыцця людзей у краіне несупастаўляльны з узроўнем жыцця шараговага заходняга чалавека. Людзі пазбаўлены элементарных свабод, краіна ахінута жалезнай заслонаю. І пастаўлена яна не для абароны ад знешніх ворагаў. Заслона патрэбна дыктатарскаму рэжыму для поўнай ізаляцыі грамадства, каб народ не ведаў сапраўднай, праўдзівай інфармацыі і працягваў жыць і працаваць за бохан хлеба і кавалак каўбасы. Мы павінны разарваць ланцугі, якія робяць чалавека вязнем, рабом, жывёлінай..."

Прачытаў і — пад лыжачкаю засмактала. Ото ўжо нахапаўся слоўцаў з розных "галасоў". Дагуляюся, ой дагуляюся! Трэба змывацца. За такія тэксты, калі зловяць, і сапраўды мала не будзе.

Шпаркім крокам перайшоў вуліцу, падбег да прыпынку. Хутчэй бы "двойка" пад'ехала... Стоп! На тралейбус, што ідзе проста да майго дома, сядаць нявартa. Канспірацыя — адзін са складнікаў поспеху падпольшчыка, ягоны шанц уцячы ад шакалаў, надзеленых уладаю. А таго, хто такое ўчыніў, злавіць і адпаведна пакараць пастараюцца напэўна. Усю "кэдэбэшную" арду кінуць на пошукі. І мянтоў падымуць, і дружыннікаў падключаць, і дворнікаў апытаюць, і яшчэ чорт ведае каго прыцягнуць да палявання на паслугача імперыялізму. Адным словам, пару прыпынкаў прайду пешкі, пасля сяду на трыццаць сёмы аўтобус, што зварочвае за квартал ад майго дома, а потым — зноў на сваіх дваіх. Заадно і ад хваста (а раптам ужо селі?) пазбаўлюся.

Сказана — зроблена. Сам здзівіўся, як хутка дабраўся да свайго двара. Схаваўся за альтанкаю: думаў, што рабіць далей. Дадому — нельга. Там могуць быць госці. Тыя самыя, нязваныя. Зашчымела сэрца. Не ўжо, дудкі, пачакаем! Без пятнаццаці пяць. Хутка мама з работы вернецца. Там пабачым

"Нарэшце! — устрапянуўся, зглядзеўшы, як маці напрасткі ішла праз двор. — Зайшла ў пад'езд, зараз пакліча", — пракаментаваў, злавіўшы сябе на тым, што гэтак жа сама, пэўна, ацаніў бы сітуацыю і "наружнік" контрразведкі. Вось яно, вясёлае жыццё "нелегала".

Праз хвіліну з балкона пачулася:

— Дзіма, ты дзе? Ідзі дадому!

Адразу з-за альтанкі не выйшаў: раптам у мамы за спіною хто-небудзь хаваецца. Пачакаў: нікога.

Прачнуўся сам. Упершыню. У школу заўсёды будзіла мама, але ў пяць раніцы, як тым разам, яна, вядома, і сама яшчэ спала. "Не шумець", — загадаў сабе і, асцярожна ступаючы, прайшоў на кухню. Уключыў радыёпрыёмнік. Знайшоў патрэбную хвалю. Ага, вось яно: "Вы слухаеце радыё "Свабода". Перадаём апошнія навіны". Нечакана сярод іншага прагучала: "Учора каля сямнаццаці гадзін у цэнтры Мінска, калі людзі вярталіся з работы, невядомыя змагары з таталітарным рэжымам раскідалі некалькі соцень лістовак з заклікам да зверажэння існуючага ладу..."

"Ужо ведаюць, на ўвесь свет перадалі",— міжволі ўсміхнуўся я з радасцю і гонарам. Павесялеў, акрыяў духам. Здавалася, адарваўся ад зямлі і лунаю ў нябёсах. "Перамога! — крычаў ува мне радасны голас. — Ты зрабіў свой выбар, адкінуў прэч баязлівасць, пазбавіўся ад путаў. Цяпер ты павінен..."

— Ага, цяпер я павінен уцякаць без аглядкі, інакш.

"А куды? — астудзіў мяне той самы, унутраны, але ўжо нярадасны голас. — Уцякаць няма куды. Навокал — сцяна, мяжа, памежнікі, аўтаматы".

Рыпнулі дзверы. Мама! Напэўна, я дужа хваляваўся і гаварыў услых.

— Зноў за сваё? — падышла да мяне. — Зараз жа выключы прыёмнік. Трасца б таму дзеду! Падарыў любімаму ўнуку на маю галаву гэтую праклятую цацку. Ні днём, ні ноччу спакою няма. Ідзі кладзіся! Ноч яшчэ.

Заснуць, вядома ж, я не мог, не да сну было. Як там сказалі? "Невядомыя змагары з таталітарным рэжымам"? Так, гэта цяпер, бадай, галоўнае — застацца невядомым. У салодкіх разважаннях пра свае геройства пракідаўся ў ложку да ранку.

У клас зайшоў, як заходзіць навічок. Усё выдавала незнаёмым, усё нібы бачыў упершыню. Ці гэта пасля ўчарашняга вочы па-іншаму на свет глядзелі? Быццам нанава нарадзіўся. Дзіва дый годзе!

Урок пачаўся з нечаканасці. Не паспела настаўніца напісаць на дошцы тэму кантрольнай работы за чвэрць, як адчыніліся дзверы. Дырэктар! За ім зайшоў высокі, стрыжаны амаль пад "нуль" мужчына ў цёмным доўгім плашчы. "Ходзіць па школе ў верхнім адзенні, — адзначыў я, — і дырэктар на такое недапушчальнае, як сам бы сказаў, парушэнне не рэагуе. За якія заслугі стрыжанаму такія прывілеі?"

— Тамара Канстанцінаўна, у вас зараз што па плане? — спытаў дырэктар, чамусьці бегаючы вачыма па класе.

— Разбор кантрольнай за чвэрць, — занепакоілася настаўніца. — Што-небудзь здарылася?

Дырэктар павярнуўся і запытальна паглядзеў на чалавека ў плашчы. Той злёгку пахітаў галавою.

— Ды не, — супакоіў дырэктар, — нам няма куды спяшацца. Зойдзем пасля урока. Трэба абмеркаваць адно пытанне. Дакладней — атрымаць адказ. Не адпускайце пасля урока вучняў, калі ласка.

"Каму — трэба? — захваляваўся я. — Дырэктару ці таму, каторы з ім? А што за ён? — задрыжалі ў мяне рукі. — Усё правільна, гэта шпік. Учора яны ўзялі след, а сёння знайшлі таго, каго шукалі. "Кэдэбэшнікі" ў сваёй справе дападныя. За ноч вылічылі. Але як? Гэта, відаць, назаўсёды застанецца таямніцай. Што рабіць? Папрасіцца ў прыбіральню і ўцячы? "Зноў ты за сваё, — азваўся голас. — Сам жа казаў — няма куды". Правільна. Значыць, застаецца адно: строіць з сябе дурня. Маўляў, нічога не знаю, мая хата з краю, сядзеў дома, вучыў урокі, пасля чытаў "Айвенга" Вальтэра Скота, калі трэба — магу змест пераказаць. Пра Буніна, мабыць, прамаўчу — ён жа амаль мой хаўруснік. Адаб'юся, што-небудзь прыдумаю. Безвыходных сітуацый не бывае, — падбадзёрваў я сябе. — Як-небудзь вырвуся з пасткі. Саскочу з небяспечных арэляў.

Так, я апынуўся на арэлях. На вагах Феміды. Над бяздоннем. Чыя возьме? Што пераважыць? Хто? Іхні вопыт, прафесіяналізм, вытрымка або мая маладосць, рашучасць, вера ў перамогу справядлівасці?..

Я чакаў і слухаў стук свайго сэрца. Яно пакуль яшчэ білася.

## Сюжэт

Сеў за камп'ютэр. Наважыўся паэксперыментаваць: напісаць апавяданне, не маючы пэўнай задумы, напрацовак, сюжэта — нічога з таго, што ёсць у пісьменніка, калі ён бярэцца за пяро. Хоць мець сюжэт, відаць, не так ужо й важна. Дапусцім, апавяданне акурат і будзе пра тое, як прыдумаць сюжэт. Згадаем бяспройгрышныя тэмы: каханне, смерць, здрада, нянавісць. Не густа. І галоўнае — усё гэта было. Пра ўсё пісана-перапісана, усё заезджана да нудоты. І таму... Во, бляха! Божа ты мой! Нешта за вакном успыхнула. Зорка? І якая зыркая! Загадваю жаданне: дай мне, Божа, ключавое слова, слова-спружыну, словаматор. Я хачу... Стоп! Ёсць! Завёўся!

*Матацыкл завёўся. Малодшы брат паглядзеў на старэйшага.*

*— Ты абяцаў, што сёння пакатаеш мяне абавязкова!*

*— Сядай, назола, ад цябе не адчэпішся. Але каб пасля не крыўдаваў. бацьку не ўздумай скардзіцца. Сам напрасіўся. Лаві шлём. Зашпіліў? Яшчэ раз пытаюся: не перадумаў? Не? Добра, сядай!*

*Павесялелы малодшы гэпнуўся на задняе сядзенне, радасна адрапартаваў:*

*—Гатовы!*

*—Узорны піянер! А цяпер хапайся за мяне і трымайся мацней, — загадаў старэйшы.*

*Малодшы брат ніколі б не падумаў, што імчаць на матацыкле будзе гэтак страшна. З першых жа метраў яму перацяло дыханне, здавалася, ён вось-вось зляціць з сядла і разаб'ецца. Насмерць, ушчэнт. Толькі што, у момант абгону, ледзь не зачапілі грузавік. На павароце нага чырканула па асфальце. "Хутчэй бы ўсё скончылася, — думаў ён, скамянелы ад жаху. — За кіламетр буду абыходзіць матацыклы".*

*Пашанцавала, Бог злітаваўся...*

Званок.

Зняў трубку.

—Слухаю.

—Вы яшчэ дома, Сяргей Канстанцінавіч? — пазнаў абрыдлы голас сакратаркі. — А пара б ужо выехаць: а шаснаццатай нуль-нуль пачынаем. Як — што? Забыліся? У Рыгора Сцяпанавіча — дзень нараджэння. Вы мяне чуеце?

—Чую, чую. Дзякуй, што нагадалі, — хуценька паклаў трубку, пакуль гэтая сарока дарэшты не затлуміла галаву. Так, дзе мы спыніліся? "На павароце нага чыркануха па асфальце. "Хутчэй бы ўсё гэта скончылася, — думаў ён, скамянелы ад жаху". — За кіламетр буду абходзіць матацыклы"... Пашанцавала, Бог злітаваўся..." Не, Бог тут ні пры чым. Усё рашае ўдача. Разгледзім той жа выпадак з матацыклам. Удача прыходзіць да канкрэтнай асобы. Гэта значыць, спачатку трэба нарадзіцца чалавекам, а не сланом, дзеля прыкладу, бо сланы не ездзяць на матацыклах. Гэта і ёсць першая ўдача. Затым — дажыць да таго ўзросту, калі вы зможаце трымаць руль. Другая ўдача! Далей.

*(Працяг на стар. 14—15)*



**цяком здольныя дзеці заціскаюцца ад эмоцый — адсюль "высокія" плечы або цяжкае дыханне... Умець валодаць сабой — вельмі складана, асаблівая складанасць — спалучэнне свабоднай кісці, локцяў і сабраных кончыкаў пальцаў, якія "гучаць". Зазвычай у каго добрыя пальцы — крыху падціснутая кісць, а вызваляюць кісць — "расплываюцца" пальчыкі. Тут надзвычай важна спачатку пачуць, потым агучыць. "Перадчуццё" — гэта значыць слыхавое і гукавое адчуванне, уяўленне...**

Добразычлівасць, кантактнасць, інтэлігентнасць, даяральнасць — такія вызначальныя якасці Зоі Качарскай як лектара, а дакладней — суразмоўцы, бо менавіта атмасфера далучанасці слухачоў устанавілася з першых хвілін. Музычная падзея, саўдзельнікамі якой мы былі, запомніцца надоўга. Неаспрэчна, ва ўсіх педагогаў захавалася самае цёплае ўражанне ад сустрэчы з тонкім музыкантам, эрудзіраваным прафесіяналам. Наша агульнае пажаданне — паўтарэнне такіх сустрэч.

**Тамара КУНІЦКАЯ,**
**заслужаны дзеяч культуры Беларусі, дырэктар ДМШ № 10**

*На здымку: майстарклас прафесара Зоі КАЧАРСКАЙ.*

удзельнікі якога звычайна граюць і спяваюць у масках (намінацыя "безнадзейнасць года").

Не будзем яшчэ раз рассоўваць завесу загадкавасці, якую ствараюць зэтаўцы, але скажам, што гэты гурт захапляе маладой энергіяй, сакавітасцю гітарнага гучання, вострымі сацыяльнымі тэкстамі. Сапраўдны лідэр постгранжу Беларусі!

Ну а падвесці вынікі "Рок-гільяціны" просім лідэра "NRM" Лявона Вольскага, які з'явіўся чамусьці з грымёркі, дзе месціліся ўдзельнікі "Zet".

— Для рокераў "Рок-гільяціна" — добрая ідэя. Таму, што добра атрымаць "Рок-карону" і адначасова якое-небудзь "гільяцінаванне" на такой імпрэзе, бо гэта будзе адпавядаць нашаму абсурднаму часу цалкам.

Ну а слухачам мы, музыкі, жадаем мець актыўную жыццёвую пазіцыю, пачуццё гумару і іранічны погляд на рэчаіснасць, якія ратуюць у такі няпэўны час.

Галоўную намінацыю "Горшы гурт года" журы вырашыла не ўручаць нікому, каб стварыць інтрыгу на будучы год. Так што, рокеры, не губляйце пачуццё гумару і ў 2001 годзе!

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

барытона Ігара Кузьменкі, тэнара Алега Шаблінскага, меццасапрана Элы Грыбоўскай.

Створаная тры гады таму капэла (у яе складзе лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў і фестываляў камерны хор, арганізаваны С. Лішчанкам у 1989 г., дапоўнены ў 1993 г. камерным аркестрам) мэтанакіравана ўдасканальвае свой рэпертуар, папаўняе яго творамі айчыннай і еўрапейскай музыкі. Капэла ў сваёй творчасці нясе высокую духоўную культуру, нястомна займаецца музычнай асветай жыхароў Магілёва. Калектыў ведаюць не толькі ў родным горадзе, але й у Германіі, Францыі, Польшчы. Выступленні капэлы вылучаюцца ўзроўнем прафесіяналізму і культуры выканальніцтва, што пацвердзілі і канцэрты з твораў І.С. Баха.

**Ірына ЛІПАЙ**

*г. Магілёў*

ПРЭМ'ЕРЫ

# Стрыптыз — забава ці экзекуцыя?

"Даруй нам, пані!" — узмаліліся два напалову распранутыя чалавекі, звяртаючыся да гіганцкай... рукі. Сапраўднай, чалавечай, толькі велізарных памераў. Але "пані" засталася абыякавай да іх просьбаў. Відавочна, таму, што ў "рукі" проста не было сэрца...

Увогуле ж новы спектакль "Нікола-тэатра" (тэатра Мікалая Пінігіна пры Канцэртным агенцтве "Альфа-радыё") пад назвай "Стрыптыз" пачынаўся зусім не са "Стрыптызу", а з "Караля", іншай аднаактовай п'есы польскага драматурга Славаміра Мрожака. У "Каралі" — зусім іншы сюжэт. Там не дзве дзеючыя асобы, як у "Стрыптызе", а тры. Але тэма, закранутая ў п'есе, — тая ж самая. Калі зняць з чалавека яго "знешнюю апратку" — абарончыя рэфлексы, звычкі, манеры паводзін, меркаванне пра сябе, — то што застанецца?

Даволі сціплы, інтэлігентны, старанны ўрач-афтальмолаг (Віктар Манаеў) праводзіў звычайны прыём хворых. Неўзабаве да яго прыйшлі два пацыенты, паводзіны якіх адразу здаліся яму дзіўнымі. Адзін з іх, Дзядуля (Уладзімір Мішчанчук), трымаў у руках паляўнічае ружжо. Другі, яго Унук (Сяргей Журавель), пагражаючы, пачаў патрабаваць, каб старому вярнулі зрок! "Навошта так спяшацца?" — здзівіўся ўрач. "Дзядуля павінен.. забіць аднаго чалавека," — заявіў Унук. — Хутчэй дайце яму акуляры". У доктара сілай адабралі ягоныя акуляры і пачапілі на нос Дзядулю...

Акцёр Віктар Манаеў сыграў ролю чалавека, якога загналі ў кут бязглуздасцю высунутых супраць яго абвінавачванняў. Урач быў ні ў чым не вінаваты, аднак яго прымусілі шукаць выйсце з тупіка. І вось, калі "апратка" знята, афтальмолаг не змог прыняць іншае рашэнне, як... паставіць у якасці мішэні іншага чалавека, выпадковага пацыента. Шок, страх, пачуццё безвыходнасці, адсутнасць надзеі, бязвер'е — вось прыступкі, па якіх урач сышоў на шлях здрадніцтва. А В. Манаеў у чарговы раз сыграў гогалеўскага Акакія Акакіевіча.

Дзве іншыя ролі — Дзядулі і Унука —- не патрабавалі ад акцёраў гэткай жа глыбіні перажывання. Уладзімір Мішчанчук і Сяргей Журавель проста**якасна**сыгралі партытуры роляў. Першы — удумліва, па законах "школы". Другі — з уласцівымі яму экспрэсіяй і азартам. Аднак на працягу дзеяння светапогляды і нават паводзіны персанажаў аніяк не мяняліся. Дзядуля і Унук як былі разбойнікі з "вялікай дарогі", так імі і засталіся. Прыйшлі, прынізілі чалавека, ператварылі яго ў свайго раба, і пайшлі далей. І нічагошачкі ў іх душах ні кранулася...

...Два клеркі (Віктар Манаеў і Сяргей Журавель) аднойчы спяшаліся па вельмі важных справах. Але раптоўна нейкая невядомая сіла схапіла іх і... кінула ў дзіўнае памяшканне. Пакуль клеркі спрачаліся паміж сабой, так бы мовіць, філасофствавалі, магчымасць уцёкаў была поўнасцю перакрэслена. Бязлітасная сіла пачала адбіраць у іх адзенне. А калі яны засталіся толькі ў сарочках і доўгіх трусах, рука іх кудысьці павяла. Два чалавекі, простыя, змучаныя, вартыя жалю, скарона пайшлі ў невядомасць.

Ролі клеркаў — зусім раўнацэнныя. (У іх нават няма імёнаў). Яны аднолькавыя па аб'ёме. Аднолькавыя па пабудове. Добра відаць, як змяняюцца светапогляды, звычкі, нават характары герояў па меры развіцця сюжэта. Персанаж Віктара Манаева — спачатку ўпэўнены ў сабе "барон мюнхгаўзен", які прывык лёгка знаходзіць выйсце з любой сітуацыі. А ў выніку характар героя змяняецца да непазнавальнасці. Клерк стаў падобны на вінаватага дзіцяня, які пажадаў папрасіць у нябачнай сілы — Рукі — прабачэння. Можа, менавіта тое, што ён вырашыў пакаяцца, і не дазволіла Руцэ прадоўжыць стрыптыз. На людзях засталося адзенне. Герой Сяргея Жураўля, спачатку вельмі чапурысты, "прынцыповы", у выніку ўстаў на бок свайго кампаньёна. "Мае прынцыпы не дазваляюць мне прасіць прабачэння, — са слязьмі сказаў ён, — аднак ты папрасі за нас дваіх, а я проста згаджуся"...

Адзін з самых вядомых сучасных драматургаў, Славамір Мрожэк, уклаў у дзве кароткія аднаактоўкі глыбокі агульначалавечы сэнс. Некаторыя чытачы прывыклі бачыць у яго п'есах "палітыку". Але "палітычная" літаратура ніколі не жыла доўга, калі толькі ў яе аснове не ляжалі ўсе тыя ж агульначалавечыя (душэўныя, ці, больш рэдка, духоўныя) каштоўнасці. У "Каралі" і "Стрыптызе" — гаворка не столькі пра "дыктатуру пралетарыяту" і "сацыялістычную законнасць", колькі пра трагедыю "неабароненай душы". Калі з душы "знялі адзенне", пад ім павінна было застацца нешта, што служыць яе вечным адзеннем, — яе добрыя ўчынкі, любоў, станоўчыя маральныя якасці, вера. Калі ўсяго гэтага не было, тады ёй сапраўды гора...

Ці ўдалося Мікалаю Пінігіну поўнасцю раскрыць змест п'есы, уключаючы і гэты сэнс?.. Рэжысёр яўна захапіўся эфектамі. Па-першае, агромністай "жывой" рукой. Па-другое, "пушкай" чырвонага святла. Яна наводзіла жах на публіку, блукаючы чырвоным промнем па радах гледачоў. Але ж жах заключаўся не ў тым, што героі трапілі ў бяду. Смерць заўсёды пагражала людзям, ва ўсе часы. Бяда ў тым, як мяняліся людзі ў крытычнай сітуацыі. Як яны гублялі чалавечае аблічча, як станавіліся "голымі" ў пераносным сэнсе слова.

Зыходзячы з гэтага пункту гледжання, фінал "Стрыптызу" не павінен быў наводзіць жах. Бо ўрэшце два клеркі пачалі разумець адзін аднаго, разбурылі сцяну адчужанасці паміж сабой, пасябравалі, пакаяліся, перамаглі жывёльны страх і, у пэўнай меры, выйшлі пераможцамі ў спаборніцтве з "пані Рукой"! Навошта пасля гэтага страшыць "пушкай" глядзельную залу?.. Быццам зразумеўшы гэта, акцёры выйшлі на паклон з жартоўным настроем. Яны быццам на самай справе пажадалі распранацца. Але... акцэнт ужо быў зроблены. Спектакль ужо скончыўся.

Аднак у мастацкай творчасці на першым месцы стаіць тое, што хацеў сказаць аўтар, а "як" — на другім. Вельмі важна, што Мікалай Пінігін закрануў глыбокую тэму. Важна, што ён узяў глыбокага аўтара. Мрожэк — гэта не мастацтва дзеля мастацтва. Гэта мастацтва дзеля чалавека. Яно — не для забавы. Хутчэй, яно — экзекуцыя для тых, хто прывык толькі забаўляцца. У жыцці так шмат пытанняў, на якія кожны чалавек павінен знайсці дакладны адказ!..

**Андрэй АХМЕТШЫН**



*На здымку: сцэна са спектакля.*

*Фота А. ДЗМІТРЫЕВА*

ВЫСТАВЫ

# "Цішыня" Уладзіміра Суцягіна

У Нацыянальнай бібліятэцы адбылося адкрыццё чарговай выставы работ фотамастака Уладзіміра Суцягіна пад назваю "Цішыня", на якой прадстаўлены здымкі апошніх гадоў. Агульная канцэпцыя сённяшняй выставы — панарамны погляд на старажытную архітэктурную спадчыну Беларусі, на яе веліч, унікальную, самабытную і вытанчаную прыгажосць.

За часы ліхалеццяў, пагромаў і войнаў усё гэта ледзь не знікла, засталіся толькі рэшткі ці руіны былых бездакорных пабудоў. Але і зруйнаваны замак ці касцёл здольныя натхняць сапраўднага мастака на адкрыццё нейкага новага, раней не заўважанага глыбокага метафізічнага зместу. На здымках У. Суцягіна Беларусь архітэктурная напоўнена драматычным сэнсам. Гэта немагчыма не заўважыць, калі стаіш, напрыклад, перад здымкамі замкаў у Смалянах, Ружанах ці касцёлаў у Беніцы, Гальшанах, Слоніме. Асобныя архітэктурныя помнікі нашай зямлі на фатаграфіях У. Суцягіна выглядаюць дзіўна і незвычайна, бо аўтар заўсёды шукае новыя нечаканыя ракурсы, кантэксты, а значыць, і новыя вобразы знакамітых ансамбляў старадаўняга дойлідства. І гэта яму ўдаецца. Сведчанне — уражаныя наведвальнікі, якія па некалькі хвілін разглядваюць асобны здымак, нібы цалкам уваходзячы ў яго таямнічую атмасферу.

Суцягін працуе ў вельмі рэдкай і каштоўнай тэхніцы манахромнай таніраванай фатаграфіі з выкарыстаннем тэхналогіі "старэння", і таму яго працы так нагадваюць антыкварныя фотаздымкі, нібы выпадкова і раптам выцягнутыя са старога альбома, узятыя з гістарычнага архіва ці прыватнай калекцыі даваенных часоў. Дарэчы, ужо сёння з фотаздымкаў майстра можна скласці своеасаблівы рамантычны летапіс існавання беларускіх недагледжаных мураванак у другой палове XX стагоддзя, бо шматлікія з іх ужо цалкам адрэстаўраваныя ці адноўленыя часткова.

У прадмове да аўтарскага камплекта фотапаштовак "Свет ціхі" У. Суцягін калісьці трапна напісаў: "Чамусьці мінулае здаецца даражэйшым за цяперашняе ці будучае. Можа, таму, што мінулае так хутка забыта і не зведана да канца..." Цяжка не пагадзіцца з гэтымі словамі, стоячы перад дзівоснай і мудрай архаікай прац фатографа, якія нейкім містычным і незразумелым чынам выпраменьваюць святло слаўнай беларускай даўніны, строгую цішыню велічных абрысаў, беражліва і дбайна заўважаных майстрам.

Адкрыццё выставы пераўтварылася ў сапраўдную літаратурна-мастацкую вечарыну, калі ў дэманстрацыйнай зале загучалі фартэпіянныя кампазіцыі Віктара Капыцько ў выкананні самога аўтара і вершы Дзмітрыя Строцава — філасофская лірыка з мінулагодніх зборнікаў і прытчы, напісаныя зусім нядаўна.

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**

## Сваёй сцяжынай

ІВАНУ ЧЫГРЫНУ — 70



Радзіма Івана Пятровіча — багатая на таленты Слонімшчына. Нарадзіўся Іван Чыгрын 10 красавіка 1931 года ў вёсцы Чамяры. У 1955 годзе скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў настаўнікам у Дзераўноўскай сярэдняй школе Слонімскага раёна, завучам у Яварскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна, настаўнічаў у Кракоцкай сярэдняй школе Слонімскага раёна. У 1958—1961 гадах вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР.

З 1961 года працаваў малодшым, а з 1975-га да выхаду на пенсію ў 1991 годзе — старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Прымаў удзел у фальклорных экспедыцыях, публікаваў народную лексіку, надаваў вялікую ўвагу даследаванню ўзаемадзеяння фальклору і літаратуры.

З першымі рэцэнзіямі І. Чыгрын выступіў у 1959 годзе. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, якая пакладзена ў аснову кнігі "Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд", што выйшла ў 1971 годзе. І. Чыгрын з'яўляецца таксама аўтарам кніг "Проза "Маладняка". Дарогамі сцвярджэння" (1985), "Крокі. Проза "Узвышша" (1989), "Рэальнае і магчымае. Проза Я. Коласа" (1991), "Паміж былым і будучым. Проза Максіма Гарэцкага" (1994), саўтарам кнігі "Беларуская літаратура і праблемы сучаснасці" (1978), аўтарам асобных раздзелаў калектыўных даследаванняў па гісторыі беларускай літаратуры. Хораша зарэкамендаваў сябе і як паэт, выдаўшы некалькі кніг. Пераклаў на беларускую мову паасобныя вершы Ф. Цютчава, У. Сыракомлі, Я. Лучыны. І. Чыгрын склаў "Выбраныя творы" Ядвігіна Ш. (1976), зборнік "Веснаход" (апавяданні "Маладняка", 1987).

З 70-годдзем, шаноўны Іван Пятровіч! Новых жыццёвых дарог вам і творчых поспехаў!

## Асветлены пачуццём

ВАЛЕРЫЮ МАСКАЛЕНКУ — 60



Сёмага красавіка споўнілася 60 гадоў паэту, празаіку, перакладчыку Валерыю Маскаленку.

Валерый Сцяпанавіч Маскаленка нарадзіўся ў Клічаве Магілёўскай вобласці. Да дванаццаці гадоў пражыў у вёсцы Цярцеж Жлобінскага раёна, а потым бацькі пераехалі ў Бабруйск, дзе В. Маскаленка скончыў сярэднюю школу № 10 з залатым медалём. У той жа год паступіў на радыётэхнічны факультэт Ленінградскага электратэхнічнага інстытута, пасля скончэння якога працаваў амаль 20 гадоў у абароннай прамысловасці. У працоўнай біяграфіі В. С. Маскаленкі таксама гады прафесійнай дзейнасці ў выдавецтве "Юнацтва" у малым прадпрыемстве "Дзісна".

Першы верш Валерыя Сцяпанавіча надрукаваны ў газеце "Мінская праўда" ў 1964 годзе. З тае пары выдаў тры кніжкі вершаў, друкаваўся ў калектыўных зборніках, у маскоўскіх і мінскіх літаратурных часопісах. Грунтоўна займаецца перакладамі беларускіх аўтараў на рускую мову.

З 1995 года — сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Рэкамендуючы В. С. Маскаленку ў творчы саюз, незабыўны У. Караткевіч пісаў: "Гэта мала сказаць, што ён таленавіты паэт. Гэта паэт наскрозь пачуццёвы і, адначасова, па-філасофску празрысты; якасці досыць рэдкія..."

Віншуючы Валерыя Сцяпанавіча з юбілеем, жадаем яму моцнага здароўя і новых цікавых твораў.

ПАЭЗІЯ

Яўген МІКЛАШЭЎСКІ



# Мой свет — няблізкі...

•

*Што засмучала, непакоіла*
*І ў сэрцы кнігаўкай крычала,*
*Я ад Нясвіжа вёз да Хвоева*
*І нёс да роднага прычала.*

*Вакол Сычоў таполі моляцца.*
*Іду — праводжу іх вачыма,*
*І пагарэльская ваколіца*
*Мяне запомніла, магчыма.*

*Куды іду? У вёску простую,*
*Кміты, якіх вакол нямала,*
*Што ўвосень ільняной каростаю*
*Свае гарышчы высцілала.*

*Ці думаў я,*
*што ўсё так зменіцца?*
*Чаму мне сніцца вёска тая?*
*Даўно там рэчка не струменіцца —*
*Ваду ў лагчыне роў збірае.*

*Вядзьмаркай рэчка называлася*
*І так сабе начаравала,*
*Што ў твань балотную схавалася*
*І назусім з вачэй прапала.*

*І поймa стала лугавінамі,*
*Куды выходзілі гароды.*
*І згадкай з гэтымі мясцінамі*
*Мяне звязала назаўсёды.*

•

*Мне сказала з усмешкаю Сталасць:*
*— Ты ў жыцці, як малое дзіця.*
*Недасяжная ў нас дасканаласць,*
*Як і мэта людскога жыцця.*
*Несур'ёзную выбраў ты мэту —*
*Перад ёю бяссільны мастак:*
*Як філосафу, так і паэту*
*Да яе не дайсці аніяк.*
*Але ўсё ж ты ішоў ненамарна,*
*Бо адтуль,*
*дзе прыпынішся ты,*
*Пойдзе іншы і ў прышласці хмарнай*
*На вышэйшыя ўзыдзе хрыбты.*

•

*Не падаў ценем*
*З-пад цёмных хмар —*
*Жыў захапленнем*
*Ад мар да мар.*

*Мой лёс крыўдуе*
*І помсціць мне:*
*І зноў іду я*
*Па цаліне.*

*Мой свет — няблізкі,*
*Ды родны тым,*
*Што жыў з калыскі*
*Я толькі ў ім.*

## Божы суд

*Мой горкі лёс мне даў пяро:*
*— Сачы за д'яблам строга.*
*Адстойвай праўду і дабро —*
*І прыйдзеш ты да Бога.*

*Я зло людское ганьбаваў*
*І, як была мажлівасць,*
*Ад злой гайні абараняў*
*Дабро і справядлівасць.*

*Мяне паклікаў Суд Святы.*
*— Пайду, — сказаў я. — Мушу.*
*"Чаму супраціўляўся ты*
*Мане і крывадушу?"*

*— Мне лёс змагацца загадаў*
*З двудушшам і маною,*
*Аднак ніхто не падтрымаў*
*І не пайшоў за мною.*

*"Пакайся лепш, — сказалі мне. —*
*Табе не ўратавацца:*
*Нашто было людской мане*
*І злу супраціўляцца?*

*Калі цябе і Божы Суд*
*Прызнае вінаватым,*
*Ты не пазбавішся пакут*
*І зробішся вар'ятам.*

*Усё ад Бога на Зямлі,*
*І вырашаць самому,*
*Ці ўсе па-Божаму жылі,*
*Не дадзена нікому!"*

•

Не пакідайце ж мовы
нашай беларускай...
**Багушэвіч**

*З грамадска-сацыяльнай*
*перапрускай*
*Змяняецца непазнавальна свет.*
*"Не пакідайце ж мовы нашай*
*беларускай..." —*
*Мы не забылі гэты запавет?*

*Чый прадзед плакаў*
*над палоскай вузкай,*
*Ды нам надзеі перадаў свае?*
*"Не пакідайце ж*
*мовы нашай беларускай..." —*
*А мы даўно пакінулі яе.*

*Зламаныя жыццёвай перагрузкай —*
*Не кратамі жалезнымі турмы,*
*"Не пакідайце ж*
*мовы нашай беларускай..." —*
*Сказаць камусь не маем права мы.*

*Нам трэба ваяваць за гэта права*
*Перш-наперш кожнаму з самім сабой,*
*А потым —*
*з беларускаю дзяржавай,*
*Або "радзімай нашай дарагой".*

•

*Мы — гаротныя дзеці*
*Ні то часу свайго, ні то лёсу.*
*Калі бліснe дасвеццe,*
*Дык не нашу асвеціць палосу.*

*Мы — нашчадкі тубыльцаў,*
*Мы — з Паўночна-Заходняга краю.*
*З племя вечных пахільцаў —*
*Нешчаслівых выгнаннікаў з раю.*

*Ды брыдзем у знямозе,*
*Уцякаем з бацькоўскага дому.*
*Мы — гарох пры дарозе:*
*"Прэч з дарогі!" — не скажаш нікому.*

*Мы сваё не шануем.*
*Як дарунак, прымаем чужое.*
*Мовай продкаў ганьбуем.*
*Што ж тады ў беларусаў святое?*

*І свайго ў нас нічога —*
*Ні гісторыі ўласнай, ні Бога:*
*Брацкі Бог не асудзіць нас строга,*
*Што мы робім благога?*

## У хвіліну роспачы

*Не вояў і добрых малойцаў —*
*Чаму не ўсвядоміць таго? —*
*Мы — нацыя самазабойцаў,*
*Смяротнікаў роду свайго.*

*Ды мы не нашчадкі прыдуркаў,*
*Што рукі трымаюць па швах.*
*Не злічыш руін і падмуркаў*
*На пройдзеных намі шляхах.*

*Навісла пагроза над мовай,*
*А мы — да каморы дзядоў*
*І ў рукі бяром тэрмінова*
*Падручнік мінулых гадоў.*

*І смешым народ крывасло́ем,*
*Не робячы ў спешцы высноў, —*
*Пачварнасцю і безгустоўем*
*Прыдуманых невуцтвам слоў.*

*Растрацім усё — ад дзяржавы*
*Да мовы пакутнай сваёй:*
*Штандар герастратавай славы*
*Над нашай павіс галавой.*

*Дзьме вецер з таго небакраю,*
*З якога не будзе світаць.*
*Паўночна-Заходняму краю*
*Няпроста дзяржаваю стаць.*

•

*Ёсць у нас і свой менталітэт —*
*Свой нацыянальны інтэрнэт.*
*Ёсць у нас свядомасць і жаданне*
*Нацыю на свеце захаваць,*
*Кожны талент,*
*поспех падтрымаць,*
*Прыпыніць распад і занядбанне.*

*Хто мы, што?..*
*Кім хочам быць на свеце?*
*Шмат чаго няма ў менталітэце.*
*Пашукай у ім такія сайты.*
*Як няма — адкрый.*
*Тады, бадай, ты*
*І пакінеш след свой на планеце,*
*Ключ? Ён у тваім менталітэце.*

Таццяна БУДОВІЧ

•

*Чырвонае золата ў лужынах —*
*святло ліхтароў.*
*Ты золата ззяннем спакушаны*
*ў абдымках вятроў.*

*Пад голлем пад чорным не золата*
*святло ліхтароў.*
*Спакуса начнога вандроўніка*
*вярнуцца дамоў.*

•

*Чорнае дрэва. Халодная глеба.*
*Дрэва ўчапілася голлем у неба.*

*Неба — халодны-халодны блакіт.*
*Пальцы ўчапіліся ў жорсткі граніт.*

*Неба адценні ў блакітнай вадзе.*
*Зверху ўніз дрэва адбітак расце.*

*Дзіўная ява: каханы мой — ты.*
*Хворы, прыніжаны ўсімі, слабы.*

*Мёртвае дрэва. Халодная глеба.*
*Мёртвае голле і раны на небе.*

•

*Цела ценю — не я,*
*А асфальт ці зямля.*

*Ён прырос да дарог,*
*Да дрыготкіх сплеценняў*
*Іншых вулічных ценяў*
*Пад ударамі ног*
*І пад цяжарам колаў*
*На асфальтавым моры.*

*У святле ліхтароў*
*З ценю сочыцца кроў.*

•

*Прарастаюць скрозь лужыны*
*ліхтары.*
*І сплятаюць адзін з другім*
*карані.*

*Дажджу парасткі на вакне*
*зверху ўніз.*
*Дождж сцяблінамі прарасце*
*Скрозь карніз.*

*Як шкада, што не зможаш ты*
*ўслед ісці*
*Там, дзе у лужынах ліхтары*
*Зацвілі.*

*Дык нашто цябе зноў і зноў*
*Клічу я*
*Скрозь сцяблiны ісці дажджоў*
*Доўгія?*

## На самым высокім даху

*Як хораша глядзець уніз*
*Адсюль, з халоднай вышыні.*
*І чуць бясстрасны голас твой,*
*Зямля пад скошанай травой.*

*...І стану я, зямля, табой,*
*Каб холад піць тваіх дажджоў*
*Паміж сплеценняў каранёў*
*Травы жывой і нежывой.*

# Дух пячоры

З БОКУ НАЗІРАЮ, як некаторыя аўтары спрабуюць правесці інвентарызацыю савецкага перыяду беларускае літаратуры, адсеяць на ўласнаручна выробленых арфах, рэшатах і сітах зерне ад паловы. Здавалася б, найлепш гэта зробіць час, але ў людзей рупеск — без іх могуць зрабіць нешта не так: не таго калібру рэшаты, не тае формы сіты. Але яшчэ больш дзіўна, што людзі, якія ўважаюць сябе дэмакратамі, пачынаюць карыстацца метадамі і прыёмамі тае, савецкае пары. Вось і артыкул Яўгена Гучка ў 6-м нумары газеты "Книжный мир" (за 8 лютага) прымусіў мяне згадаць даўняе, здавалася б, ужо забытае. Тэрміналогія якая! "Абстрактны гуманізм", "так званыя лібералы", "касмапалітычныя халуі"... Міжволі ўспомніш і Іосіфа Вісарыёнавіча, і Івана Іванавіча. А карыстаецца гэтаю тэрміналогіяй чалавек, быццам датычны да культуры, літаратуры.

Ніколі не забуду, як у сакавіку 1985 года (у дзень смерці Сталіна!) на адкрытым партыйным сходзе Саюза пісьменнікаў Дзмітрыю Бугаёву і мне даводзілася нагадваць калегам, што літаратурныя спрэчкі трэба весці ў літаратурных (літаратуразнаўчых) тэрмінах, а не кідацца палітычнымі лексемамі — гэта да дабра не даводзіла і не давядзе. Па іроніі лёсу і тыя аматары палітычнае лексікі, і Яўген Гучок аб'ектам для нападак абралі аднаго і таго ж самага чалавека, мастака, мысліцеля — Алеся Адамовіча.

Спачатку сп. Гучок спрабуе давесці, што творчасць Святланы Алексіевіч — няпоўнавартасная. "Алексіевіч, — піша ён, — проста магнітафонажурналістка". І дадае: "Гэтую эстафету ёй уручылі ў свой час Алесь Адамовіч і К°", стварыўшы "Я — з вогненнай вёскі..." (Заўважу, што назва кнігі пададзена недакладна; зрэшты, і ў загалоўку Гучковага артыкула праблема з пунктуацыяй: "Феномен Алексіевіч ці, Маска я вас ведаю!").

Алесь Адамовіч і кампанія — гэта яшчэ Янка Брыль ды Уладзімір Калеснік. (Можна было б згадаць і яшчэ пра аднаго Адамовічавага "кампаньёна" — Даніїла Граніна, сааўтара "Блакаднае кнігі"). Мець такіх папярэднікаў, скажу вам, — гонар. Але сп. Гучок кідае жменю бруду ў аўтараў "Я з вогненнай вёскі..." Яны, ці бачыце, не пра тое пісалі: "...аднабока, хай і па ўласнай ініцыятыве, але ўсё ж выконваючы сацыяльны заказ уладнага рэжыму, не паказалі другі бок, які не ў меншай меры, чым названы там, вінаваты ў развязванні вайны і які таксама нёс беларускаму насельніцтву (не народу! — **аўт.**) агонь, пакуты і смерць".

А яшчэ Алесь Адамовіч (ужо сам, без кампаніі) вінаваты, што, нарадзіўшыся ў Канюхах Капыльскага раёна, непадалёк ад вёскі Грозаў, дзе падчас Слуцкага паўстання быў створаны полк, нідзе не напісаў пра гэта ніводнага слова. А ў Канюхах жа пасля здушэння паўстання быў расквартараваны карны чырвонаармейскі кавалерыйскі полк, побач жа дзейнічаў санаторый для чырвонаармейцаў, у якім служылі пісьменнікавы бацькі. Вось з гісторыі гэтага палка, на думку сп. Гучка, і трэба было б Адамовічу пачынаць сваіх "Караценяў" (!).

Нездарма сп. Гучок не любіць "так званых лібералаў". Ён паводзіць сябе ў традыцыях "другога боку" і гатовы прадпісаць ледзь не кожнаму з нас, што і як трэба пісаць. Шкада, што сп. Гучок не даспеў да гэтых дырэктываў раней. Уяўляю, як ён выдае свой "сацыяльны заказ" Адамовічу, Брылю і Калесніку...

А цяпер ад палітычных прэтэнзій сп. Гучка пяройдзем да літаратурна-грамадскіх фактаў, якія яму грэх не ведаць.

Хоць Адамовіч, Брыль і Калеснік (усе былыя партызаны) выканалі "сацыяльны заказ", публікацыя кнігі "Я з вогненнай вёскі..." была пад пытаннем. Старшыня Дзяржкамітэта па друку Міхаіл Дзялец, прачытаўшы рукапіс, склаў даўжэзны пералік прэтэнзіяў (ці не 96). І чаму рэспандэнткі і рэспандэнты сфатаграфаваны не ў шлюбна-святочных строях, і чаму тое, і чаму гэтае?.. Асабліва стараўся загадчык аддзела культуры Станіслаў Марцалеў. Ён пажадаў, каб КДБ праверыла ўсіх апавядальнікаў — дзядзькоў і цётак: а ці няма сярод іх нядобранадзейных? У такім разе кніга, магчыма, ніколі не ўбачыла б свету, але, на шчасце, у ЦК КПБ сядзелі не толькі звышпільныя таварышы. Быў там і баявы лётчык, "хітраван стары Кузьмін" (той самы, што насмеліў галоўнага рэдактара "Полымя" Кастуся Кірэенку надрукаваць быкаўскі "Знак бяды"). Вось пасля таго, як сакратар ЦК Аляксандр Кузьмін прачытаў кнігу, у М. Дзяльца засталося толькі два неістотныя пытанні да аўтараў. Асмялеў старшыня Дзяржкамдруку!

Хоць Адамовіч, Брыль і Калеснік выканалі "сацыяльны заказ", партыя і ўрад не ўганаравалі іхнюю кнігу якой-небудзь прэміяй, бо "Я з вогненнай вёскі..." — пра ахвяраў, а не пра герояў — партызанаў і падпольшчыкаў. Вось калі б былыя партызаны зрабілі кнігу пра сваіх паплечнікаў, паказалі "ўсенародную барацьбу" і гэтак далей...

Як была ўспрынята кніга таварышамі па пяры, сведчыць тое, што рэцэнзентам яе стаў і такі далёкі ад "сацыяльных заказаў" пісьменнік, як Міхась Стральцоў. Як успрынята была чытачамі? Я нарадзіўся на хутары непадалёк ад спаленай вёскі Задуб'е Ганцавіцкага раёна, а з чатырох год жыў у гэтай вёсцы. У хаце паміж двух пажарышчаў, колішніх сядзіб... Браціха майго дзеда, баба Сцепаніда (1902—1999), у якой бальшавікі забралі чалавека, дзеда Васіля, ратавалася ад карнікаў з сямю дзецьмі. Усіх ўратавала баба Сцепка, але не ўсе дзеці перажылі яе. Тое ваеннае бытаванне найбольш далося ў знакі меншым сынам. Памерлі Антось і Стась. Нездароўчы Міша. Бываў я ў спаленых Вялікіх Прусах, Жавалках і Калодзезным Капыльскага раёна, у Арэхаве Маларыцкага раёна, а ў спаленых Радзежы і Навалессі таго ж раёна настаўнічаў і жыў (у школе вучыліся дзеці і са спаленага Хмелішча). Якраз у той час публікавалі кнігу Адамовіча, Брыля і Калесніка. Я даваў чытаць тыя тэксты людзям, якія перажылі трагедыю, і зрабіў выснову: кнігу гэтую нельга чытаць ні большым сынам бабы Сцепкі, ні яе дочкам — Уладзю, Івану, Надзі і Зоні: яны наплакаліся, нагараваліся. Гэтая кніга хутчэй для бабы Сцепчыных унукаў (іх дваццаць чатыры), праўнукаў і прапраўнукаў, для тых, хто не зведаў жахаў вайны, хто чулы сэрцам. Гэтая кніга — і напамін, і папярэджанне.

Адамовіч, Брыль і Калеснік запісвалі на стужкі ўсё, што расказвалі дзядзькі і цёткі, аднак перш чым аддаць стужкі ў архіў, сёе-тое сцерлі з іх. І перш за ўсё — апавяданні пра тое, як беларускія вёскі палілі чырвоныя партызаны. Янка Брыль перанёс гэтыя апавяданні сабе ў нататнік, а калі настаў іншы час, запісы апублікаваў. Потым ужо за тэму ўзяліся маладзейшыя (няхай сп. Гучок пагартае падшыўкі "Нашае Нівы").

Пісаць пра героіку партызанскай барацьбы было шмат ахвотнікаў. Калі пачытаць успаміны партызанскіх камандзіраў і камісараў ды заняцца статыстыкай паводле іх, дык, мусіць, атрымаецца, што вермахт не даставіў на фронт ніводнага танка і ніводнага салдата. А Уладзімір Калеснік яшчэ ў першай палавіне 80-х гг. (да таго, як ва ўсіх развязаліся языкі) кпіў са здольнасці партызанаў ваяваць з рэгулярнай арміяй (эсэ "Час вызвалення"). Але да таго, як прыйшла Чырвоная Армія, партызанаў ледзь не з усяе Беларусі кінулі на Віцебшчыну — для "стратэгічнага ўзаемадзеяння з фронтам". Пра гэта знялі фільм "Полымя". "Гераічны бок падзей, — пісаў Адамовіч, — адлюстраваны старанна, пра астатняе ў той час аўтары кінафільма расказаць не пасмелі". Далей пісьменнік ставіць праблему: "Начальнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху П. К. Панамарэнка ў сваіх успамінах хаця і апісвае гэту аперацыю, ніяк не тлумачыць: чаму партызан у час не абвясцілі, калі яны самі апынуліся ў "мяшку", што агульная ўзгодненая аперацыя адмяняецца?". І яшчэ: "Наўмысна гэта Сталін падстроіў?" Аўтар не дае ні сцвярджальнага, ні адмоўнага адказу на гэтае пытане. Чаму б сп. Гучку не даследаваць праблему?

Сп. Гучок, выяўляецца, не ведае творчае гісторыі кнігі "Я з вогненнай вёскі..." Складваецца ўражанне, што ён не ведае і дэталяў біяграфіі Алеся Адамовіча. Пісьменнікаў бацька, Міхаіл Іосіфавіч, быў у тым чырвонаармейскім санаторыі практыкантам. Сын у яго і Ганны Мітрафанаўны нарадзіўся ў 1927 г., а ў 1928-м маладыя муж і жонка былі ўжо ў Глушы (Глускі раён). Алесь Адамовіч убачыў Канюхі праездам адзін-адзіны раз, дый тое праездам. Спецыяльна такі маршрут выбраў — цягнула туды, дзе нарадзіўся. Дык калі ён мог бачыць і чуць удзельнікаў ці сведкаў Слуцкага паўстання?

Дамо волю ўяўленню. Студэнт (аспірант, кандыдат, доктар, прафесар) Адамовіч прыязджае ў Грозаў і, выйшаўшы з аўтобуса, пачынае роспыткі: "А ці не ведаеце вы, хто браў удзел або памятае Слуцкае паўстанне?" Або вось Адамовіч, Брыль і Калеснік распытваюць у бабуль і дзядоў: "А нашы партызаны вас не крыўдзілі, не рабавалі?" Цікава, як хутка скончыліся б гэткія экспедыцыі? (Чым яны скончыліся б — вядома). Калі сп. Гучок не ведае, дык я магу яму расказаць, што такое палітычны сыск у СССР: як прачытаюць і перададуць у КДБ пакінуты табою ў шуфлядзе рабочага стала дзённік, як наладзяць у цябе на кватэры вобыск, як дырэктар школы, у якой ты працуеш, данясе ў КДБ, што ты чытаеш Евангелле, як бухгалтар калгаса (там, на Случчыне) шапне на вуха: "Людзі кажуць, што вы распытваеце пра Радося Астроўскага. Не рабіце гэтага". Аўтары "Я з вогненнай вёскі..." запісвалі ўсё, што ім апавядалі, але на стужках не ўсе апавяданні пакінулі — каб не падстаўляць дзядзькоў і цётак. А гаваркія, даверлівыя цётка ці дзядзька сустракаліся нячаста: няма дурных (паразумнелі за гады савецкае ўлады). Трэба даўгавата жыць у нейкай мясцовасці, каб уведаць нешта "забароненае".

За Алесем Адамовічам сачылі, асабліва пасля таго, як ён адмовіўся падпісваць ліст з асуджэннем Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля, калі яму, Янку Брылю, Васілю Быкаву ды Аляксею Карпюку (і, здаецца, больш нікому іншаму з беларускіх пісьменнікаў) Аляксандр Салжаніцын выслаў свой славуты ліст да з'езда пісьменнікаў. Не паспелі Адамовіч з Быкавым спаткацца з Салжаніцыным у Маскве, як пра гэта ўжо ведаў сакратар ЦК КПБ Станіслаў Пілатовіч і патэлефанаваў Максіму Танку. (Быкава — ён сам мне апавядаў — правакавалі. У ліст ягонага італьянскага сябра падкладвалі антысавецкі тэкст і чакалі, прынясе пісьменнік тую ўлётку ці не. Прыносіў, а не прынёс бы — наладзілі б вобыск і прыпісалі б калі не "изготовление", дык "хранение". Знішчыць? А дакажы, што ты знішчыў, а не перадаў каму яшчэ). Запрашалі Адамовіча і на бяседы, дзе спраўна працаваў магнітафон (пра гэта Ігару Дзядкову, Аляксандру Станюту і мне апавядаў сам пісьменнік у маскоўскім Цэнтральным доме літаратара). Алесь Міхайлавіч, калі яго, "непадпісанта", выжылі з Масквы, на адно з запрашэнняў не адгукнуўся. І меў рацыю: госці "пагарэлі". А вось мой настаўнік,выдатны спецыяліст у тэорыі пазнання Вячаслаў Сцёпін папаўся. Калі ягоны бацька — стары камуніст — пайшоў у ЦК КПБ высвятляць, за што пераследуюць сына, там шчыранька сказалі, што сын гаворыць лішняе, што маецца магнітны запіс... І Сцёпін і Адамовіч мусілі ратавацца ў Маскве (праўда, і час быў іншы).

Калі чытаеш маладых і не надта (як сп. Гучок) аўтараў з іх дакорамі пісьменнікам старэйшага пакалення, дык складваецца ўражанне, што ўся віна "дзядоў" у тым, што яны не выступалі з адкрытым забралам. Нобелеўскі лаўрэат Салжаніцын выступіў... Выступіў і тройчы герой, "невыязны", "носьбіт сакрэтаў" Андрэй Сахараў... Гучныя імёны або не ратавалі, або ратавалі слаба. Ваенныя заслугі — таксама (генерал Пятро Грыгарэнка).

Выступіў бы Адамовіч... І павёз бы з сабою за мяжу ці ў мардоўскія лагеры архіў Максіма Гарэцкага? А на варштаце ў Алеся Міхайлавіча ляжала распачатая кніга "Браму скарбаў сваіх адчыняю..." (Дзмітрый Бугаёў значэнне гэтае працы раскрыў ужо ў загалоўку свае рэцэнзіі — "Вяртанне класіка"). А яшчэ Адамовіч напісаў раман "Карнікі" (выйшаў у 1980 г.), але раздзел "Дублёр" — пра Сталіна — прыхоўваў да лепшае пары (дзесяць гадоў давялося чакаць). Ну, а хто грукаўся б у кабінет Гарбачова пасля чарнобыльскай катастрофы? Не Слюнькоў жа (гл. кніжку А. Адамовіча "Апакаліпсіс па графіку").

Не далі б павезці архівы і Калесніку, а ён у той час рыхтаваў кнігу "Ветразі Адысея" — пра Уладзіміра Жылку, яшчэ аднаго забітага пісьменніка.

Хочам мы таго ці не, але мусім прызнацца, што пасля смерці Адамовіча, Калесніка і — дадам... Рыгора Бярозкіна не з'явіліся ў нашым літаратуразнаўстве і крытыцы новыя асобы, роўныя ім паводле свайго маштабу.

Мусіць, адзін Брыль усё сваё мог павезці ці то на Усход, ці то на Захад (амаль адначасова з "магнітафоннажурналісцкай" кнігаю друкуе "Ніжнія Байдуны" і, мабыць, задумаў "Золак, убачаны здалёк"). Праўда, і гэты не ўтрымаўся, пайшоў у крытыкі ды паміж дзвюма аповесцямі напісаў, што ён думае пра некаторых жывых карыфеяў сацрэалізму, а яму "Литературное обозрение" апаратыўна (на вокладцы) ушыла аб'ектывізм ("не замай наших!").

●

А цяпер — пра пісьменніцу, якая ўзяла эстафету з рук Адамовіча, Брыля і Калесніка.

Сп. Гучок спрабуе напісаць вобраз прайдзісветкі. Мы ж усе добра ведаем, што з трох ці то чатырох мінскіх выдавецтваў Святлане Алексіевіч і тэлефанавалі, і пісалі: калі ласка, прынясіце кнігу "Цынкавыя хлопчыкі", мы яе надрукуем на лепшай паперы ў сціслыя тэрміны. Але "магнітафонажурналістка", якая, як і яе папярэднікі, акцэнтуе ўвагу "на так званых памежных сітуацыях" (а навошта нам яны?), гуляе "ў забаранялаўку": пажалілася "так званым лібералам", што ў Богам сцеражонай краіне нашай яе кнігу не друкуюць. Тыя прачыталі і знайшлі ў кнізе патрэбнае ім — "абстрактны гуманізм" (гэта калі ты бачыш, чытаеш або чуеш, што чалавека паранілі, або ўкінулі ў хлеў, каб там спаліць, або паставілі да сцяны, каб застрэліць, гэта калі ты бачыш чалавека на мяжы жыцця і смерці і, не папытаўшыся з якой ён краіны, якое нацыі, веры, з якое сацыяльнае групы паходзіць і да якое належыць, шкадуеш яго, абліваешся слязьмі). І "так званыя лібералы" далі кніжцы ход. І ўганаравалі яе. І на Бацькаўшчыне яе ў ладкі сустрэлі. Ці нам нешта не тое пачулася?

А хто не памятае, як ужо шэсць мінскіх выдавецтваў дамагаліся права першае публікацыі "Чарнобыльскае малітвы"? Не, зноў "магнітафонажурналістка" ўчыняе той самы фокус: жаліцца, "прыпраўляецца-прыпудрываецца флёрам нібыта дысідэнцтва", падносіць "абстрактны гуманізм", і "так званыя лібералы" бяруцца на кручок...

Тое, што пасля публіцкацыі "Цынкавых хлопчыкаў" пісьменніца па судах хадзіла (а не яе позвамі выклікалі), дык гэта "звычайная бытавуха", проста займалася "самарэкламай". А бытавуха таму, што гэтая Алексіевіч у сваёй кнізе, па сутнасці, "ушчыльную змыкаецца з рэжымам у падыходзе да фундаментальных праблем жыцця ў іх канкрэтных праяўленнях", г. зн. занялася так "званымі памежнымі сітуацыямі", а не ўзяла ды не ўрэзала праўду-матухну: не паказала, што людзі забівалі адзін аднаго "пад наглядам дзяржавы-агрэсара", г. зн. не занялася палітыкай, палітычнай публіцыстыкай. А яшчэ лепш было б, каб самі "цынкавыя хлопчыкі" казалі прыблізна так: "Злачынны камуністычны рэжым, гэтая імперыя зла паслала мяне ў Афган..." Вось гэта і было б сапраўднае дысідэнцтва і правільнае раскрыццё "фундаментальных праблем жыцця ў канкрэтных праяўленнях".

А мы, дурныя, не здагадваліся, што трэба прад'явіць такія прэтэнзіі і папярэднікам С. Алексіевіч, і ёй самой. Чыталі "Я з вогненнай вёскі..." і думалі: вось да чаго прывяла сталінская палітыка. Слухалі па "варожых галасах" "Архіпелаг ГУЛАГ", чыталі "Карнікаў" і думалі: дзе, у якой яшчэ краіне ішла такая грамадзянская вайны, вендэта на акупаванай тэрыторыі, гэта ж колькі ворагаў дзяржавы спарадзіў той рэжым? Чыталі "У вайны не жаночае аблічча" і думалі: амаль мільён жанчын ваююць, а мільёны мужчын сядзяць. Няправільна пісалі гэтыя пісьменнікі: трэба было проста, біць у лоб. Не тую эстафету ўзяла ў рукі Алексіевіч, бо ні Адамовіч, ні Брыль, ні Калеснік не сказалі нам проста і даходліва аб роднасці двух тыпаў таталітарных рэжымаў, а шукалі, стваралі нейкія там вобразы, капаліся ў псіхалогіі чалавека ў памежнай сітуацыі.

Такім чынам, сп. Гучок прад'яўляе пісьменнікам, перш за ўсё Алесю Адамовічу і Святлане Алексіевіч, палітычныя прэтэнзіі, патрабуе ад яе не мастацкай публіцыстыкі, а палітычнай — простай, як граблі, без памежных сітуацый і "абстрактнага гуманізму". Ён упікае пісьменніцу не за мастацкія хібы яе твораў, не мяркуе пра гэтыя творы паводле законаў жанру, а бярэ нелітаратуразнаўчыя тэрміны для ацэнкі напісанага.

Вельмі непакоіць сп. Гучка праблема ўнутранай свабоды чалавека. Дык чаго ты жывеш за мяжою, калі ўнутрана свабодны? — пытаецца сп. Гучок. Вунь Уладзімір Арлоў, Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Віктар Дашук "і многія, многія іншыя" не выязджаюць. Што адказаць на гэтае пытанне? Вунь Васіль Быкаў, акадэмік Уладзімір Платонаў, Алесь Разанаў і многія, многія іншыя выехалі і жывуць за мяжою. Але гэтыя імёны аўтар "Книжного мира" "забыў", бо яму ідзецца пра тое, каб супрацьпаставіць рускамоўную Алексіевіч беларускамоўным аўтарам. Каб падкрэсліць творчую пераемнасць паміж рускамоўным Адамовічам і Алексіевіч, ён спецыяльна не называе імёнаў Адамовічавых сааўтараў (наколькі цалкам рускамоўныя і Адамовіч, і Алексіевіч — тэма асобная). А раз Алексіевіч пастаўлена ў адзін лінгва-творчы рад з Адамовічам, дык трэба абвінаваціць яе ды ейнага папярэдніка за "памежныя сітуацыі" (беларускамоўных Брыля ці Быкава за тыя ж сітуацыі сп. Гучок не вінаваціць). А яшчэ трэба дастаць для ацэнкі іхняе творчасці старое клішэ — "абстрактны гуманізм", бо ведама, што гуманізм бывае або савецкі, або сацыялістычны, што любіць можна толькі чалавека аднае з табой расы, этнасу ці мовы. Дастае сп. Гучок і яшчэ адно клішэ — шырокавядомае з часоў Сталіна: "касмапалітызм". Атрымалі лібералы з глабалістамі... Але я не буду спрачацца са сп. Гучком пра ліберальныя каштоўнасці і глабалізацыю, бо і сам рызыкую трапіць у лік касмапалітаў (па праўдзе кажучы, касмпалітызм мне сімпатычны). Таму абмяжуюся толькі паўтарэннем ужо сказанага: давайце гаварыць пра творчасць без палітыкавання. І давайце, раз мы ўжо ўзяліся за пэўную літаратурную тэму, добрасумленна вывучаць біяграфіі пісьменнікаў і гісторыю тых ці іншых іхніх твораў, дэманстраваць тое, што называецца карэктнасцю.

**Анатоль СІДАРЭВІЧ**

## Збудзіў гонар за нашу гісторыю

**Грамадска-асветніцкі клуб “Спадчына”, які з самага пачатку яго стварэння ўзначальвае шчыры руплівец беларускай нацыянальнай ідэі Анатоль Белы, нядаўна зладзіў у Доме літаратара вечар памяці вядомага гісторыка Міколы Ермаловіча.**

**Гадавіна з дня смерці Міколы Іванавіча склікала яго сяброў, аднадумцаў, калег па навуковай дзейнасці.**

**Адкрываючы вечарыну в. а. старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава зазначыла, што Мікола Ермаловіч абудзіў гонар за нашу гісторыю, вывеў яе са змроку. “Гэта быў чуйны сэрцам чалавек, гісторык, інтэлігент. У свой час ён падтрымаў мяне ў часопісе “Полымя” — ухваліў маю першую празаічную аповесць на гістарычную тэму. З тае пары я ў энерга-інфармацыйным полі Міколы Ермаловіча”.**

**Старшыня “Спадчыны” Анатоль Белы ў прачулым выступе спыніўся на феномене Міколы Іванавіча як гісторыка, грамадзяніна.**

**— Мікола Ермаловіч, — зазначыў Белы, — ачысціў гісторыю Айчыны ад фальшу, напластаванняў ненавуковага характару.**

**Успамінамі пра гісторыка падзяліўся прафесар Язэп Юхо, які справу, што здзейсніў Мікола Ермаловіч, яго асабіста ацаніў так: сінтэз гісторыка і пісьменніка.**

**Хораша і пранікнёна згадвалі пра Міколу Іванавіча гісторыкі-навукоўцы.**

**Прафесар Мікалай Сташкевіч:**

**— Ідэі, якія падаў Ермаловіч, — сёння жывуць, натхняюць гісторыкаў цяперашняй явы.**

**Кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан:**

**— Творчая праца Міколы Іванавіча — старонка ў айчыннай гістарыяграфіі. Асэнсаванне яго спадчыны патрабуе скрупулёзнага вывучэння. Урокі Ермаловіча — паказальныя. Ён нават змог скарыстаць ідэолагаў тагачаснай афіцыйнай улады, ды ўвогуле яе ідэалогію, каб выказаць свае погляды на айчынныя гісторыю і культуру.**

**На вечарыне з прысутнымі падзяліліся сваімі ўспамінамі пісьменнікі Алесь Петрашкевіч і Генрых Далідовіч.**

**Напрыканцы імпрэзы адбылася прэзентацыя палатна-партрэта слыннага гісторыка. Мастак Алесь Цыркуноў ва ўласцівай яму манеры ўвасобіў Емарловіча як сівал грамадзянскай пазіцыі, сапраўднага Беларуса.**

**І. ІВАНОЎ**

## Заспявай мне песню...




**Зборкі з рамантычнай музыкай — адныя з самых паспяховых у камерцыйным сэнсе. Так ужо ўладкаваны чалавек: калі ён закахаўся, то яму патрэбна адпаведная музычная атмасфера. Ствараць такую атмасферу вырашылі дапамагчы выдаўцы зборкі беларускай лірычнай рок- і поп-музыкі “Moге кахання” (“Больш кахання”).**

**Для ажыццяўлення гэтага праекта былі выкарыстаны запісы толькі айчынных выканаўцаў розных напрамкаў ад фолка да гранжа. Галоўнае, што тэма кахання, маладосці, вясны, святла, святога Валянціна аб'ядноўвае слухачоў зборніка.**

**Добра, што новы рэліз стаў дэбютным для маладых выканаўцаў: гуртоў “Цмокі”, “Харлі”, гурта з Польшчы “Jacques de Lovsse”.**

**Акрамя песень, непасрэдна на тэму кахання, на зборцы шмат нумароў з танцавальнай музыкай. Да такіх аднесці трэба кампазіцыі з гуртоў “Без білета”, “Крама”, “Long Play”, а таксама знакамітага “Палаца”, які дэбютуе дэнс-рэміксам “Канюшня” з ды-джэем Ray-Хвісевічам.**

**Але рамантычную атмасферу зборніка найбольш яскрава падкрэсліваюць выканаўцы, для якіх лірыка — значны складнік іх творчасці. Таму так арганічна гучаць тут песні і апрацоўкі “Kriwi”, “Новага Неба”, “Белага сну” з Беласточчыны...**

**Асобным дадаткам у касету укладваецца супрацьзачаткавы сродак фірмы “Life Styles” — сімвал адказнасці ў каханні. Менавіта гэтая фірма і стала спонсарам выданні зборкі “Moге кахання”.**

**А. МІТРАНОВІЧ**

# ТРЫ АПАВЯДАННІ

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 9)*

Далей пажадана не траціць часу на пустыя мудраванні і падумаць, што ўручыць незабыўнаму шэфу і мужу маёй палюбоўніцы Рыгору Сцяпанавічу. Можа, рогі? Не смешна. Ён зробіць з іх вешалку, на якой у бліжэйшыя асеннія месяцы раз у тыдзень я буду пакідаць сваю куртку. І штораз перад тым, як пацешыцца з ягонай красуняю, буду дакараць сябе ў думках, які я падлюга і нягоднік: спакушаю жонку шэфа без аніякага сораму. Зрэшты, годзе займацца самавыхаваннем — збіўся з сюжэта. Што там з хлопцамі? Яшчэ катаюцца? Пара тармазіць.

*— Усё, спектакль скончыўся, — заявіў старэйшы брат. — Паркуемся.*

*“Здаецца, жывы, — абмацаў сябе малодшы. — Вось гэта пакатаўся. На ўсё жыццё запомню!“*

*— Ну што, набраўся страху? — злез з матацыкла старэйшы. — Бачу, вочы па яблыку.*

*— Ды не, — малодшы стараўся быць зусім спакойным. — Усё нармальна. Амаль як на веласіпедзе, толькі з гары.*

*— На веласіпедзе, кажаш? — засумняваўся старэйшы. — А самому за руль сесці не хочацца? Я пакажу, як кіраваць*

*— Праўда? — не паверыў малодшы. выказаў здагадку: “Напэўна, самому кіраваць матацыклам не так страшна, як ехаць ззаду?”*

*— Сядай на маё месца, — пачаў старэйшы першы ўрок. — Бліжэй да руля. Па-блатному будзеш ездзіць, як навучышся. Цяпер пакруці ручку газу, адчуй яе. Націсні на тармазы, прывыкай да педаляў.*

Нешта я заваждаўся з хлопцамі. Час бегчы на іманіны боса.

У кватэру на трэцім паверсе аднаго з самых прэстыжных дамоў горада ўляцеў з дзяжурнаю, да вушэй, усмешкаю. Віншаванне загадзя амаль слова ў слова спісаў (прыдумваць не было часу) з аднае паштоўкі, прысланай летась пад нейкае свята:

— Дарагі (памяняў імя і імя пабацьку) Рыгор Сцяпанавіч! Ад усяго сэрца (“Так, — прызнаўся сабе, — сэрца якраз жа ў мяне і няма”) віншую вас з юбілеем. У гэты радасны для ўсіх нас (ой, ці для ўсіх?) дзень хацелася б пажадаць вам вялікіх поспехаў у працы, моцнага здароўя (пры гэтым стандартным пажаданні ў мяне чамусьці пачаў заплятацца язык) і доўгіх гадоў жыцця!.. Тут жа сам сабе зазначыў: “Крый Божа, тым болей— з такою жонкаю.”

Перакульваючы ў рот чарку, зноў успомніў пра матацыклістаў.

*— Цяпер адзін зможаш паехаць? — глянуў старэйшы брат на малодшага пасля таго, як тры гадзіны запар трэніраваў яго на пустцы непадалёк ад дому.*

*— Што ты пытаешся? — ускліннуў малодшы. — Сам жа бачыш, я ўжо о-го-го як ваджу!*

*— Думаеш? — пахітаў галавою старэйшы. — Што ж, паглядзім. Пакуль — толькі да нашага дома і назад. Зразумеў?*

*— Зразумеў. Рукі, праўда, крыху дрыжаць, напэўна, з непрывычкі. Так і быць, кругоў пяць яшчэ тут зраблю, а пасля рызыкну па вуліцы.*

*— Добра, трэніруйся. Галоўнае — адпрацуй да аўтаматызму пераключэнне хуткасцей. потым — не зблытай пярэдні тормаз з заднім, а то вылеціш уперад галавою. Упавароты старайся ўваходзіць больш упэўнена...*

Пакуль малодшы брат даводзіў да бляску тэхніку ваджэння, тосты ў гонар Рыгора Сцяпанавіча пайшлі па другім крузе. Да майго чарговага выступлення было далёка, і я спусціўся (здавалася, незаўважна) у двор — падыхаць свежым паветрам. Амаль адразу ж, услед выбегла і яна.

— Не глядзі на мяне гэтак, — кінула, пераняўшы мой занепакоены позірк. — Чаго захваляваўся? Я ўсё прадугледзела. Сказала мужу: пакуль падаваць гарачае, хачу спакойна пакурыць. А за стол яшчэ не садзяцца: бачыш, у лоджыі поўна гасцей...

У пад’ездзе, калі мы вярталіся ў дом, яна схапіла мяне за плечы, прыхінула да сцяны.

— Абдымі, — прашаптала, заплюшчваючы вочы. — Я хачу цябе.

“Вар’ятка! Убачаць жа! Дальбог, убачаць! — пранеслася ў маёй галаве. — Няўжо не разумее? У нас жа сем’і, дзеці. Пазабаўляліся, пацешыліся і — хопіць”.

— Ціха, супакойся, — узяў яе за рукі. — Дачакайся панядзелка. Я ў абед вырвуся. Абяцаю.

— Ніякіх панядзелкаў. Хачу цябе зараз, кожны дзень, заўсёды, усё жыццё.

“Сапраўды звар’яцела, — занерваваўся я. — Што рабіць? Як супакоіць яе?”

— Абяцаю, — прыцісну да сябе. — У панядзелак прыеду, сядзем, усё абдумаем і...

— Ніякіх “і”! Я не веру! Я не дачакаюся! — перабіла яна. — Я больш не магу чакаць!

Не стрываў:

— Усё! Хопіць! Пусці! — лёгенька адштурхнуў яе і ступіў да выхаду. Адтуль — на вуліцу. На другім баку — стаянка таксі. Машыны ёсць! Яшчэ пару метраў і я — вольны. Яна вернецца дадому, жыццё пойдзе сваёй чарадою, і вечар скончыцца без скандалу.

Імгненна ўсвядоміўшы, што засталася адна, яна рванулася ўслед. “Спыніце яго!” — закрычала ў роспачы.

Захапіўся, дабегаўся. Зусім забыўся на сюжэт. Як там мае хлопцы?

*— Значыць, дамовіліся, — нагадаў старэйшы брат малодшаму, — толькі туды і назад. Калі будзеш праязджаць паўз наш дом, на вокны не паглядвай — чаго добрага, у слуп урэжашся.*

*Малодшы сядзеў за рулём, падгазоўваў і старэйшага не слухаў. Ён паверыў у свае сілы і думаў толькі пра адно: хутчэй у бой. Паказаць старэйшаму, што можа не проста праехаць, прасунуцца чарапахай. Не! Ён праляціць эфектна, як сапраўдны гоншчык малодшы газануў, сарваўся з месца і паімчаў. Пад’язджаючы да свайго дома, яшчэ здалёк выглядзеў знаёмыя вокны. “Вунь, нашы, — сказаў сабе. — Можа, там і мама стаіць? Махну рукою: салют, мама! От, здзівіцца!”*

Але мама не здзівілася: у яе былі іншыя клопаты. Яна выбегла на вуліцу, павяла вачыма: “Дзе ён? У таксі сядае!” Рванулася да пераходу...

Матацыкліст, што нёсся на жоўтае вока святлафора, нават не паспрабаваў аб’ехаць яе або прытармазіць. Заглядзеўся на вокны...

Удар! Яго выкінула з сядла. Праляцеўшы з дзесятак метраў у паветры, ён пакаціўся па зямлі. Хлопцу пашанцавала: упаў на зялёную паласу, што падзяляе вулічны рух. Жанчыну ж матацыкл кінуў на слуп святлафора. Выцяўшыся аб яго галавой, яна страціла прытомнасць...

Малодшы толькі падрапаў аб зямлю твар ды парваў адзенне. Падняўся. Цьмяна ўсведамляючы, што кагосьці збіў, пасунуўся слепа да злашчаснага пераходу. Ля святлафорнага слупа скалануўся: на асфальце ніцма ляжала жанчына. Яе галава залівалася крывёю...

Я апынуўся ў таксі за лічаныя імгненні да гэтых падзей, нічога пра іх не ведаў і вячэрняму званку не здзівіўся. Аднак тэлефанавала не яна. Яна ўжо болей ніколі не патэлефануе. І мне — паверце — не прыйдзе ў галаву эксперыментаваць з прыдумваннем апавяданняў. Варта толькі скласці сюжэт, як д’ябал увасабляе яго ў жыццё...

У кватэры на трэцім паверсе аднаго з самых прэстыжных дамоў горада яны цяпер жывуць утрох: бацька і два сыны.

## Гэта не балюча

### I

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ: “Ты — нябожчык!” Як бы вы самі ўспрынялі такі пасаж: “Малады чалавек (мужчына, жанчына, дзяўчына ці роднае “Гэй, ты!”, нарэшце!), хацеў бы папярэдзіць, што жыць вам засталося не больш за год. Не глядзіце на мяне, як на вар'ята, і не спрабуйце раскрыць рот і пра нешта спытацца. Я не ведаю, колькі дакладна часу адвёў вам Усявышні — хвіліну, гадзіну, дзень ці месяц, але пэўна — не болей за год!”

Навошта, адкуль нарадзілася, узнікла, усялілася ў мяне гэтая здольнасць прадчуваць смерць? Не сваю — чужую. Як вызначаю, што менавіта гэты няшчасны альбо няшчасная (ці не ўсё роўна?) — з тых, каму засталося жыць меней за год? Не ведаю.

Іду па шырокай шматлюднай вуліцы і здзіўляюся: асуджаных не так ужо й мала! Яны быццам апякаюцца аб мой позірк, кідаюцца ад мяне, паскараюць крок і знікаюць. Але куды б яны ні кіраваліся, куды б ні ішлі, мне вядомы іх канечны маршрут, апошняя рыса, фінал, а прасцей — блізкая яго непазбежнасць.

Чым тыя, каму засталося жыць меней за год, адрозніваюцца ад іншых? Як я распазнаю іх? Зноў жа — не ведаю. А хацеў бы знаць! Хто я? Адкуль узнік, хто надзяліў мяне гэтым жудасным самазабойчым дарам?

### II

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Загаварыў ён. Амаль закрычаў. Нечакана, з налёту. Хрып нагадваў рыпенне веснічак у юдавым доме. Разам з голасам з рота вырваўся смурод мярцвячыны.

— А, навенькі, цёпленькі, яшчэ не адукаваны? Захапляешся вялікім, невядома кім дадзеным табе ўсемагутным дарам? Давай, давай, пакуль што — балдзей, цешся! Першыя дні ўсе на сёмым небе. Язык, нябось, свярбіць? Так і хочацца пахваліцца, раззваніць усім? Угадаў? Прызнавайся, не маўчы. Хвалюешся? Не бойся. І не спадзявайся што-небудзь змяніць. Усё па плане. Увесь свет па плане. Здзіўлены? Гэта праўда, павер. Выпадковасцей не бывае. Ведай: пад канец падарожжа і ты будзеш кідацца ад навічкоў. Не нейкім там няшчасным меней за год засталося, а акурат нам — мне і табе. Гэта значыць, ты — наш, ты ўвайшоў у круг, пераступіў рысу, трапіў на адваротны бок. Таму ты і ёсць пасвячоны. Не толькі ты, але і ўсе, каму засталося меней за год, ведаюць праўду пра сябе. Ведаюць, але маўчаць. І рота ніколі не разявяць. Пад страшнымі катаваннямі не прызнаюцца. Дзеля сваіх блізкіх і дзеля саміх сябе. Ёсць закон, правіла, прынцып: балбатун памірае датэрмінова, раней прызначанага часу. Памірае ў пакутах, у полымі, у пекле. А хто хоча трапіць у пекла? Ты?!

Упамін пра пекла змусіў мяне здрыгануцца ад жахлівай фантастычнай здагадкі: я пазнаю тых, каму засталося жыць меней за год, таму, што стаў для іх сваім. Я свой, такі самы, як яны, ужо калею, амаль нябожчык? І ніхто з іх не гаворыць пра гэта, не крычыць. Не хочуць, баяцца адыходзіць раней. Тым болей — у пекла. Але гэта яны не хочуць — нармальныя, звычайныя, якіх бальшыня. Мне ж карта па жыцці выпала іншая.

— А хіба ты — хочаш?! — адказаў я пытаннем на пытанне. Ён анямеў ад такога нахабства. Яшчэ ў маленстве я засвоіў: нечаканасць— галоўнае, з чаго складаецца перамога. — Ты хіба не прагнеш помсты?! Не імкнешся да справядлівасці? Не? Хочаш спакойна дажываць і ўсё? Навошта? Не ведаеш? А я ведаю! Ёсць мэта! Найвышэйшая! Галоўная! Самая першая! Аснова, падмурак, сэнс жыцця!

— Жыццё? — ачнуўся крыкун.— Ну не! З жыццём у цябе зараз будуць праблемы! Не будзе ў цябе жыцця!

Ён пайшоў на мяне. Чамусьці я гэтага чакаў...

### III

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Але мог — дзейнічаць. І першы схапіў яго за горла. Што будзе, калі ён памрэ раней часу і не з-за свайго доўгага языка, а ад маёй рукі? Я заб'ю злога вестуна і за-

крычу, выкрыю сябе: "Людзі, мне засталося жыць меней за год! Ведайце: яшчэ за год да смерці асуджаны на гэта знаюць усё, але маўчаць!" Пасля такога самавыкрыцця, думаю, пекла мне забяспечана. А гэта — галоўнае, тое, да чаго я імкнуся: трапіць да юдаў, у апраметную. Знайсці там забойцу бацькі! Вось мэта жыцця! Паўтараю: кроў — за кроў, смерць — за смерць! Але "смерць — за смерць" не атрымліваецца. Я спазніўся. Цягнік пяцідзесятых пайшоў. Застаецца кроў — за кроў, кара — за кару, пакуты — за пакуты. Зло павінна быць пакарана, адпомшчана.

Пальцы сціснулі кволае горла. Яму, па ўсім, і сапраўды заставалася не болей за год. Ён быў вышэйшы за мяне, на выгляд дужэйшы, але дарма спрабаваў адарваць ад сябе мае рукі — нумар з абаронаю не прайшоў. Мае пазногці ўсё глыбей упіваліся ў ягоную шыю. Правы ўказальны палец намацаў кадык, падчапіў яго, націснуў — і вочы высокага палезлі з вачніц. Жоўтыя з зялёным ваніты змяёй выслізнулі з ягонага рота. Я адпусціў кадык, ён абвяў. Змяя, як пацук, адпаўзала...

Цяпер мара збудзецца. Я — забойца ды плюс яшчэ выдаў сябе. Усё зроблена з запасам. Павінен трапіць туды, куды імкнуўся. Заслужыў, дамогся, маю права. Ды што там права — я абавязаны сустрэцца з забойцам бацькі. Дзякуй табе, крыкун, дзякуй!

### IV

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Нешта ляцела, вісчэла, набліжалася да мяне. Смерць? Зноў? Адскочыў, прыпаў да зямлі, замёр. Тое віскліваe "нешта" прамахнулася, але паспела зрэагаваць, згрупавацца, перакаціцца, устаць. Загарлапаніла, залямантавала. Яшчэ адзін крыкун?

— Падла! Цяпер табе засталося меней за гадзіну. Ты пазбавіў мяне асалоды назіраць, сачыць, валачыцца за табою. Не хацелася забіваць цябе адразу. Думаў — падурэем, пабегаем, падужаемся. Але ты не пакінуў мне выбару. Ведаеш, хто ты? Нябожчык? Не! Ты — мой духоўны двайнік. Я той, каму засталося меней за месяц. Ты прыйшоў змяніць мяне. Але, выбачай, гэтае права трэба заваяваць. Калі я заб'ю цябе, дык зноў стану тым, каму меней за год. Бачыш, я не хачу з наскоку. Няхай усё рашае сумленны паядынак. Такі закон. Уставай, дарагая кожная хвіліна. Цябе павінен пакараць я, а не Усявышні. Мне трэба паспець да ягонага прыходу.

"Паядынак дык паядынак! — прыкідваў я. — Гэтага за горла не схопіш — галава адразу пераходзіць у плечы, валасы густыя, доўгія". Я схапіў яго акурат за валасы. Пяцярнёю. Прыліп, прысмактаўся. Рвануў уніз. "Ну, падла!" — заехаў нагою яму ў жывот. Ён ірвануўся, адскочыў, завішчэў:

—Паскуда! Я прыкончу цябе! Ты будзеш трэці. І тады я вярнуся на той бок.

—Не вернешся! — я выдзер у саперніка жмут валасоў і кінуўся ўсім целам яму ў ногі. Інерцыя, памножаная на лютасць, памагла зваліць долу аграмадную тушу. Дабраўся да горла. Душыў. Галоўнае — душыць! Гэта ў мяне добра атрымліваецца. Пальцы сціснуліся. Цяпер разумею, чаму гэтак цяжка адарваць бульдога ад шыі ахвяры.

### V

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Я ўвайшоў у ноч, у холад, у нікуды, у пекла. Я ведаў, што знарок апынуўся тут першым. Супраць правілаў. Супраць усіх. Я адзін. Мяне не павінна быць. Я выпадковасць, якой не бывае.

Вочы звыкліся з цемраю і ўлавілі ўдалечыні мігатлівы агеньчык. Цяпельца, ці што, гарэла сінім полымем? Хацелася падысці, але нешта падказвала: не спяшайся, засвяціцца заўсёды паспееш. Галоўнае — знайсці забойцу, учыніць яму допыт. Няспешна, спакваля пілаваць-ірваць ірада на часткі. Катаваць, катаваць, катаваць! Кожны падлюга павінен ведаць: за свае паскудныя справы — адкажа. Рана ці позна адчуе, што ён у кіпячым катле. Рана ці позна па ягоным горле паплывуць расплаўлены метал. Рана ці позна з яго здзяруць скуру, вырвуць ягоны адростак. Ад такіх не павінна заставацца нашчадкаў. Такіх трэба вынішчаць пад корань. Дзеля гэтага я сышоў у пекла. Пара пачынаць селекцыю. Пара.

І рушыў на сіні агеньчык.

### VI

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Дзевятыя суткі, брудны і потны, я поўзаў па камянях. Агеньчык то набліжаўся, то аддаляўся. Нейкім цудам я дапяў да яго — падманутым, зайшоўшы з тылу. Сіняе святло струменілася з пячоры. Я ступіў туды. Так, іх катавалі ў аграмадных пячорах-норах. Яны паразвучваліся гаварыць. Вісчэлі, мычэлі, плакалі, малілі, душыліся сваёю крывёю, слінаю, ванітамі і не паміралі.

Мне пашчасціла застацца незаўважаным, хоць было імгненне, калі ледзь не выдаў сябе. Убачыў бацькавага забойцу. Ён ляжаў, распяты на каменным доле. Я ведаў, што гэтак кладуць асабліва старанных, выслужлівых катаў. У роце юды тырчала лейка. Выканаўцаслужка нёс коўш з расплаўленай смалою. Коўш разбураў мае планы. Я хацеў, каб падлюга загаварыў перад знікненнем. Як перашкодзіць выканаўцу? Бачу: ён спыніўся, прыслухоўваецца. Няўжо ўчуў мяне? Ціха! Ляжаць, не варушыцца, зліцца з зямлёю, з пячорою, з пеклам. Выканаўца-служка азіраўся. Накіраваўся да мяне? Не, павярнуў да выхаду. Смала астыла, ці што?

Час ішоў. Імгненні адлічвала сэрца. Выканаўца не вяртаўся. У яго перадышка? Дзіўна. Я асмялеў, падняўся, зняў з пояса біклажку з вадкасцю. Гэта была не простая вадкасць. Ад яе малекулы распадаюцца на атамы. Яна ператварае жывое ў хімію, у перыядычную табліцу, у нішто.

Пякельнай вадкасці не пашкадаваў. Выліў усю. На ногі. Не спяшаўся. Ён, як і ўсе, толькі мычэў і з мальбою вылупліваў на мяне вочы. Ён прайшоў кругі пекла і ўжо нічому не здзіўляўся. Хацеў знікнуць, позіркам маліў аб гэтым. І я яму дапамог. Дапамог бацькаваму забойцу. Нашы жаданні дзіўным чынам супалі. Такое бывае. У пекле.

— Раскажы, як катаваў бацьку, — падступіўся я да мэты свайго візіту. — Што шэпчаш? Не катаваў? А чаму ён падпісаў відавочную хлусню? Білі? Ужо "мы"? Яшчэ нехта, не ты адзін? Збіванне да смерці — гэта, па-твойму, не катаванне?

Я даў сабе волю — стаў асыпаць юду праклёнамі. Апамятаўся, калі той пачаў раставаць. Растварыліся ступні, калені, адростак, жывот, грудзі. Апошняй рассыпалася галава.

Гэтага моманту я чакаў. Гэта быў галоўны момант у маім жыцці. Яго нельга было праваронiць. Ад юды адлучалася душа. Яна паляцела б шукаць сабе новае цела. Гэтага я не мог дапусціць.

Душа ўсплыла і збіралася змыцца. Я гэта прадбачыў і падпаліў гадзючае воблака — шпурнуў у яго палаючае палена. Воблака ўспыхнула і, перш чым знікнуць, абпаліла мяне. Гэта было апошняе паскудства, якое ўчыніла душа забойцы.

### VII

Я НЕ МОГ ШТО-НЕБУДЗЬ РАСТЛУМАЧЫЦЬ АБО СКАЗАЦЬ. Я ўзляцеў, праваліўся, знікнуў, узнік, прачнуўся — спаў. Расплюшчыў вочы. Дома. Зноў. Чаму? Як вярнуўся? Што зрабіў апошняе? Спаліў гада? Гэта быў сон? Не ведаю. Што было яшчэ? Два забойствы? Ірад быў трэці? Я забіў трох і вярнуўся на гэты бок. Пераступіў рысу. Шкада! Сон гэта, ці не сон?

— О, мы зрабілі ласку прачнуцца, — зазірнула ў спальню жонка. Падышла, выцерла мой узмакрэлы ад поту твар. Пасміхнулася: — Хароша ты мой! — Памацала, ці не развязаліся за ноч вяроўкі. Не развязаліся, да крыві ўпіліся ў мае запясці: "Праклінаю цябе!" Жонка пасміхнулася, прашаптала:— Ты, мой дарагі і каханы, трэці. Мы абое робім добрую справу. Ты — адпомсціў за бацьку, я — адпомшчу за дзеда!

Нож увайшоў мне проста ў сэрца. Зусім не балюча, калі ў вас разрываецца сэрца. Цяпер я гэта ведаю!

# "Радуемся кожнаму таленту"

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 3)*

адмаўляць аўтарам, у якіх, як кажуць, нешта ёсць. У камісіі людзі добразычлівыя, разам з тым патрабавальныя, у іх толькі адзін клопат — падтрымаць таленавітых людзей, што ідуць у літаратуру. І кожны член камісіі ўважліва сочыць за далейшымі творчымі крокамі прынятых. Радуемся іх адметным творам, засмучаемся няўдачамі.

Пры абмеркаванні звяртаем увагу, у якіх перыядычных выданнях друкаваўся аўтар. Гэта вельмі аб'ектыўны фактар, паколькі сёння літаратурна-мастацкія выданні, перш за ўсё "Полымя", "Нёман", "Маладосць", "ЛіМ" засталіся адзінымі сур'ёзнымі аддзеламі творчага кантролю ў нашай літаратуры. На вялікі жаль, некалі рэспектабельнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" па меры камерцыялізацый усё губляе і губляе статус саліднага АТК. Як і наш літаратурна-крытычны цэх, які практычна перастаў адсочваць сучасны літаратурны працэс, хоць амаль палова сяброў творчага саюза складаецца з прадстаўнікоў гэтага цэха. Каб не Алесь Марціновіч ды яшчэ два-тры аўтары, можна было б недасведчанаму чалавеку падумаць, што беларуская літаратура даўно памерла, ніхто нічога вартага не піша, не друкуе. І самае парадаксальнае: сярод прэтэндэнтаў на прыём у СП амаль палова праходзіць па секцыі крытыкі і літаратуразнаўства. І яшчэ большы парадокс: варта толькі прэтэндэнту ці прэтэндэнтцы атрымаць членскі білет, як адразу ж велічна замаўкае.

Спрабуюць тлумачыць гэта нізкімі ганарарамі і тым, што рэдакцыі не заказваюць канкрэтных артыкулаў і рэцэнзій. Доля праўды тут ёсць, але... А хіба рэдакцыі заказваюць празаікам раманы, аповесці, апавяданні, паэтам — паэмы, нізкі вершаў? Ці лапатай грабуць ганарары паэты, празаікі? Тут відавочна нешта іншае. А што — хацелася б, каб пайшла зацікаўленая гаворка на нашым з'ездзе. Але калі прыйшлося да слова пра ганарары, то я цалкам згодзен з Алесем Жуком, які нядаўна выказаўся грунтоўна па гэтай праблеме на старонках "Звязды". Сапраўды, інакш, чым здзекам, аплату працы літаратараў не назавеш. Тут альбо поўнае непаразуменне, альбо неразуменне нашых уладаў ролі і значэння літаратуры ў духоўным жыцці грамадства. Разумная і дбайная ўлада гэтак да працы ставраднікаў, духоўных каштоўнасцяў не ставіцца. Спасылаюцца на эканамічныя цяжкасці. І брыдка слухаць, калі на высокіх нарадах у прысутнасці першых асоб дзяржавы называюцца зарплаты дробненькіх кіраўнічкоў раённага ўзроўню. Народнаму пісьменніку, чые творы, безумоўна, будуць на ўжытку нашчадкаў стагоддзі, прыносяць дзяржаве прыбытак, патрэбна карпець не адныходзячы ад пісьмовага стала, каб зарабіць хоць палавіну такога акладу. Вось і ўся размова пра сацыяльную справядлівасць, справядлівасць аплаты працы. Падобна, нехта літаратуру і за працу не лічыць. Толькі не хацелася б, каб гэтае балючае для кожнага пытанне панавала на нашым з'ездзе. Будзьма годнымі... Колькі ўжо гаворана-перагаворана. І што?

**Кар.:** Валянцін Уладзіміравіч, мы трохі, здаецца, адхіліліся ад тэмы, хоць наўрад гэта можна назваць адхіленнем — праблема надзвычай балючая, аказвае непасрэднае ўздзеянне на стан нашай літаратуры, і яна, безумоўна, прагучыць на з'ездзе. Хацелася б пачуць ваша меркаванне пра стан літаратурнага працэсу, увогуле літаратуры, якое месца ў ім займаюць аўтары, што ўліліся ў нашую творчую суполку і 13 з'езд для іх стане першым. Кажучы словамі Пушкіна, што за пакаленне, маладое, незнаёмае прыйшло ў міжз'ездаўскі перыяд?

**В. Б.:** Я паважаю Аляксандра Сяргеевіча, але наўрад ці можна назваць наша папаўненне маладым, незнаёмым. Кожны з іх паспеў заявіць пра сябе адметным голасам на старонках самых рэспектабельных нашых выданняў, кніжкамі аповесцяў, апавяданняў, паэтычнымі зборнікамі. Ужо нават гэта абвяргае сцверджанні нядобразычлівцаў аб быццам бы правінцыйнасці, нізкім узроўні беларускай літаратуры, яе стагнацыі, якая мусіць непазбежна прывесці да скону ў сувязі з адмаўленнем народа ад роднай мовы. Трошачкі ўсё не так, мякка кажучы. Беларуская літаратура ўпэўнена пераадольвае крызіс. Сведчанне таму і апошнія творы новага Быкава, па-свойму новых Кудраўца, Казько, Карамазава, у паэзіі — Барадуліна, Бураўкіна, Гілевіча, Законнікава. Можна назваць не адзін дзесятак літаратараў, якія плённа працуюць, робяць твар сённяшняй літаратуры, імёны, якія склалі б гонар любой развітай, з багатымі традыцыямі літаратуры. На жаль, наш самаедскі менталітэт, упэўненасць, што не можа быць прарокаў у сваёй Айчыны, не дазваляе агледзецца навокал, параўнаць, аддаць належнае. Насуперак змрочным прагнозам у літаратуру пайшла свежая, маладая, са сваімі звонкімі, непаўторнымі галасамі плынь, народжаная адраджэнскай хваляй. Несумненна, а ў гэта так хочацца верыць, пройдзе не так багата часу — і мы поруч з імёнамі слынных майстроў слова будзем ставіць такія пакуль што нязвыклыя імёны, як Ірына Дарафейчук, Маргарыта Прохар, Наталля Капа, Валянціна Кадзетава, Таіса Супруновіч і, не дай Бог сурочыць, яшчэ добры дзесятак імёнаў нашых міжз'ездаўскіх неваб-ранцаў. І зноў не абысціся без статыстыкі. Сярэдні ўзрост прынятых у сябры саюза недзе ў межах 30-40 гадоў. Для паэта мо гэта і не аптымальны ўзрост, а для празаіка — самы што ні ёсць. Тым больш, што сярод прынятых вельмі многа празаікаў. Сярод іх студэнтка Маргарыта Прохар, якая ў 21 год выдала кніжку адметнай прозы. Амаль палавіна прынятых — аўтары з перыферыі, большасць з якіх жывуць і працуюць у вёсках, маленькіх гарадках, людзі з гушчыні жыцця, ад вытокаў, не сапсаваныя сталічнай калялітаратурнай багемай. І яшчэ адна адметнасць міжз'ездаўскага прызыву, якая і радуе і выклікае пэўную трывогу: бальшыня талентаў выпадае на жанчын. Мо гэта выпадкова, мо і невыпадкова. Магчыма, перад рэальнай пагрозай знікнення беларусаў як этнасу сам Бог перадае справу выратавання ў жаночыя рукі, як гэта на пэўным гістарычным этапе было ў Эстоніі. Хто яго ведае...

**Кар.:** А тыя, хто не прайшоў праз прыёмную камісію — безнадзейна? Вам не шкада, што некаторыя зусім яшчэ маладыя па ўзросце не дабралі ўсяго па некалькі галасоў?

**В. Б.:** Вядома ж, не безнадзейна. Больш таго — абсалютна ўпэўнены, што асобныя з іх абавязкова прыйдуць у літаратуру. Гэта для іх выпрабаванне — нездарма ж кажуць: за бітага двух нябітых даюць. Маладзейшым трэба вызначыцца, гэта ў іх сур'ёзна ці звычайная дзіцяча-юнацкая хвароба вершаплёцтва, якой перахворваюць, як адзёрам, амаль усе. У адных праходзіць хутка, у іншых зацягваецца. Калі ўсё ж сур'ёзна, то, як гэта банальна ні гучыць, трэба вучыцца і працаваць, працаваць і вучыцца, патрабавальна ставіцца да сваёй творчасці. Калі адчуюць, што ў іх ёсць сказаць чалавецтву нешта сваё, яшчэ нікім не сказанае ці сказанае не так, не тымі словамі, як ім хочацца сказаць — значыць, у іх жыве пісьменнік.

**Кар.:** І апошняе: што вы чакаеце ад нашага з'езда?

**В. Б.:** Ды нічога асаблівага не чакаю. Літаратура робіцца не на з'ездах, пасяджэннях, нейкіх нават самых разумных масавых мерапрыемствах. Хацелася б, каб дыскусіі праходзілі па надзённых прынцыповых праблемах, добразычліва, зацікаўлена, без палітыканства, высвятлення адносін, разборак, звадак, прынцыпова і годна. Каб з'езд кансалідаваў нашы творчыя сілы, каб пазбеглі расколу, пакольку нам дзяліць няма чаго. Расколы, як правіла, ініцыіруюцца і падаграюцца палітыканамі і адбываюцца не на творчай, а далёкай ад творчасці глебе. Карысці ад іх для літаратуры — аніякай. Хацелася б, каб з'езд нас аб'яднаў на аснове рэальнай трывогі за будучыню нашай літаратуры, нашай мовы. Каб на фоне галоўнага мы хоць на гэты дзень сталі вышэй нейкіх крыўд і непаразуменняў адзін да аднаго, прыдушылі ў сабе паганенькую зайздрасць, што некаму Бог даў больш, а некаму менш, мярзотнае жаданне некаму напакасціць падкіданнем "шароў" пры тайным галасаванні. І абралі сабе ў кіраўніцтва людзей, якія не толькі хочуць, але і ўмеюць, могуць.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Казіміру Вікенцьевічу КАМЕЙШУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці дачкі Ілоны.**

ГОСЦІ

# Музыкант — уладар сэрцаў і... ідэй

Войцах Дамінік Папеляж — асоба шматгранная. Яго можна ўбачыць у самых розных амплуа: педагога, удзельніка ансамбля, саліста і нават у якасці артдырэктара міжнароднага конкурсу-фестывалю ў польскім горадзе Элку. Зайздросная разнабаковасць! На жаль, не так часта сустракаеш гэтак шчодра адораных прыродай музыкантаў.

Днямі Войцах Папеляж выступіў з сольнай праграмай у канцэртнай зале "Гродна". Гастролі былі арганізаваны Гродзенскай абласной філармоніяй (дырэктар Эдуард Ціховіч) пры пасрэдніцтве вядомага гітарыста і кампазітара Дзяніса Асімовіча.

Польскі музыкант прадставіў творы старадаўніх і сучасных аўтараў. Строга, стрымана, удумліва ён выконваў творы італьянскіх майстроў Вінчэнца Галілея, Антоніо Нава, Маўра Джуліяні. Наадварот, музыку іспанцаў артыст іграў імпульсіўна, тонка адчуваючы яе танцавальную аснову і своеасаблівы маўрытанскі каларыт. Класічнага па духу Фернанда Сора дапоўніў парывіста-рамантычны Франсіска Тарэга з яго знакамітымі "Успамінамі пра Альгамбру" і "Арагонскай хотай". Польскі гітарыст паказаў сябе пранікнёным лірыкам у творах Антоніо Лаура, Федэрыка Марэна Тарабы, у п'есе "Прысвячэнне Амеліі" ананімнага аўтара з Каталоніі. Глыбока ўразілі публіку светлыя інтанацыі "Кавацінь" сучаснага англійскага кампазітара Стэнлі Моэрса. Жыва і ярка прагучала руская народная песня "Івушка" ў апрацоўцы Яўгена Ларычава.

Шчырае захапленне выказала зала, калі гітарыст па-за праграмай прапанаваў джазавую п'есу, а прысутныя пачалі адбіваць такт свінгуючага рытму. Некатэрая напружанасць, заўважаная ў пачатку канцэрта, бясследна знікла. Яе змянілі поўнае ўзаемаразуменне і сардэчная цеплыня. Адна з слухачак выйшла на сцэну і прачытала ў гонар маэстра толькі што напісаны ёю верш:

*Вы музыкант,*
*вы властелин*
*Мелодий,*
*трелей, переливов,*
*То полных грусти,*
*то игривых.*
*Лишь вы один.*
*Лишь вы один!*

Разуменне душы чалавека, закліканага ствараць Прыгажосць — ці не гэта вышэйшы гонар за карпатлівую працу і майстэрства?

Пры канцы сустрэчы госць расказаў пра свой конкурс-фестываль гітарнай музыкі, які сёлета ладкуецца пяты раз. У аснове імпрэзы — ідэя "трох дзён Італіі ў Элку". 27—29 красавіка ў родным мястэчку Войцаха Папеляжа зноў загучыць класічная гітара, будзе прадстаўлена італьянскае народнае і прафесійнае мастацтва, выступяць аркестры, ансамблі, спевакі, інструменталісты. Публіка пакаштуе сапраўдную піцу і спагеці, паспытае букет лепшых вінаў Марсалы і Калабрыі. Словам, Італія, быццам паўднёвае сонейка, зазірне ў горад адпачынку і турызму, жамчужыну Мазурскіх азёраў — Элк!

І тады мне падумалася: чаму б і нам не арганізаваць штосьці падобнае? Напрыклад, фестываль "Санкт-Пецярбург у Гродне" альбо, скажам, "Кракаў у Лідзе"? Няўжо гэтую ініцыятыву не можа ўзяць на сябе Гродзенская абласная філармонія? Ці ж нам не па сіле, як даўным-даўно прынята ў Еўропе, з бляскам праводзіць рознага кшталту фэсты ды імпрэзы ў летні час, калі горад перапоўнены адпачываючай моладдзю? Мы ж наіўна мяркуем, што ліпень і жнівень — "мёртвы сезон" для канцэртнай дзейнасці. Значыць, патрэбны кардынальныя змены, свежы погляд!




Не пабаюся сцвярджаць: візіт Войцаха Дамініка Папеляжа стаўся плённым. Гітарыст пазнаёміў нас з малавядомымі творамі, прадэманстраваў высокі прафесіяналізм і даў нагоду задумацца наконт новых форм прапаганды мастацкай творчасці ў нашай Гародні.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

***на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу:***

**загадчык кафедры дызайну 1**
**прафесар кафедры малюнка 1**
**прафесар кафедры графікі 1**
**прафесар кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва 1**
**прафесар кафедры інтэр'ера і абсталявання 1**
**дацэнт кафедры інтэр'ера і абсталявання 1**
**дацэнт кафедры дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва 1**
**дацэнт кафедры жывапісу 1**
**дацэнт кафедры дызайну 1**
**выкладчык кафедры малюнка, жывапісу, скульптуры 2**
**выкладчык кафедры мадэлявання адзення і мастацкага ткацтва 1**
**дацэнт кафедры малюнка 2**
**ст. выкладчык кафедры малюнка 1**

*Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.*

Заявы і дакументы, згодна ўмове аб конкурсах, падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас:
**220012, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 232-77-34.**

Аргкамітэт па правядзенні Гарэцкіх чытанняў

паведамляе, што X Гарэцкія чытанні адбудуцца 7—8 чэрвеня 2001 года ў Горках. Тэма чытанняў: "Максім і Гаўрыла Гарэцкія. Жыццё і творчасць".

Просім да 15 мая 2001 года паведаміць тэму вашага выступлення на чытаннях.

Матэрыялы будуць выдадзены. Аб'ём тэзісаў 3-5 поўных старонкі тэксту. Даклад неабходна прадставіць на дыскеце 3.5 у рэдактары Word дзеля Windows.

Для складання праграмы просім паведаміць звесткі аб аўтары (прозвішча, імя, імя па бацьку, месца працы, пасада, вучоная ступень, службовы і хатні адрасы, тэлефоны).

Усе матэрыялы дасылайце па адрасе:

220020, г. Мінск, вуліца Багдановіча, 15. Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Гарэцкія чытанні.

**Даведкі па тэлефоне ў Мінску:234-56-21 (код 8-0172).**

ВЕРНІСАЖ



*Малюнкі А.ГУРСКАГА*

ЭПІГРАМЫ

Уладзімір МАЗГО

## Вясёлы карагод

*Уладзімір Буднік*

***Пад ручку з песняю***
***Валодзя***
***Увайшоў***
***У новае стагоддзе.***
***І сёння Буднік***
***Песняй будзіць —***
***І падпяваюць следам***
***Людзі.***

*Юрка Голуб*

***Сын зямлі***
***І небасхілу,***
***Ён адчуў***
***У крылах сілу.***
***І ўзлятае***
***Так высока***
***Юрка Голуб,***
***Быццам сокал.***

*Вольга Іпатава*

***Цяжкі ўзяла***
***На плечы груз —***
***Увесь пісьменніцкі***
***Саюз.***
***Ды гэта Вользе***
***Не абуза,***
***Калі яна***
***Для іншых —***
***Муза.***

*Міхаіл Фінберг*

***Кажуць:***
***— Шчыры дзякуй,***
***Міша! —***
***Музы вечныя***
***Нясвіжа.***
***Заслаўе,***
***Маладзечна***
***Ўдзячны Фінбергу***
***Сардэчна.***

*Язэп Янушкевіч*

***Ні Парыж,***
***Ні Рым,***
***Ні Кракаў***
***Не заменяць***
***Родны Ракаў***
***І даследчыцкую глебу***
***Янушкевічу Язэпу.***

## Пажаданне Клышкі — Клышку

***Каб родны дзядзька Анатоль***
***У хаце меў дабра пад столь.***
***Здароўя каб не бракавала,***
***І Зося ўсё жыццё кахала,***
***Каб ведаў кожны малец Клышку,***
***Любіў "Буквар" яго і кніжку.***

**Алесь КЛЫШКА**

Марцін КОЎЗКІ

## Доля праўды

Бачыў страшны сон: поліэтыленавая бутэлька на крыжы касцёла. Горы нелеквіднага смецця ўздымаліся так высока, што закінуць бутэльку быў ужо не фокус.

●

Пустое месца заўважаюць тады, калі яно знікае.

●

Аб правах чалавека. Варта зрабіць наручнікі больш свабоднымі, каб кожны затрыманы мог пачухаць сабе патыліцу.

●

Каб вучыць беларускай мове дзяцей, у каледж перапрацоўваюць беларускі ліцэй. О'кэй!

●

Жыве цяпер глыбінка самапасам, якая ўжо надзея на калгасы. Ды гэтая глыбінка, скажам прама, у Мінску пачынаецца з "Дынама".

●

З новых паданняў пра Сталіна. Помнік правадыру захаваўся ў грузінскім мястэчку раённым. Ды нехта знакамітаму земляку пэцкаў рукі чырвоным.

●

Ніхто так аддана не служыць уладзе, як медныя трубы. Што тыя трубы без улады? І яны ж яе першыя хаваюць, гады.

●

"Сродкі Масавай Інфармацыі, СМІРНА!" Выпадковае супадзенне пачатковых літар ці нешта больш сур'ёзнае?

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ,**
**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ —** *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН —** *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП —** *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фота-карэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-8462**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2865
Нумар падпісаны ў друк 12.4.2001 г. у 17.30
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2101

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12